23 студзеня 2015 | № 3 (420)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10003

Мовы Шатлындыі
стар. 6

**3 ЗАКОН ЗАХАВАННЯ Ў ДЗЕЯННІ**

Прышпільна назіраць за тым, як узнікаюць і знікаюць грошы. Падаецца, гэта чацвёртая рэч, на якую можна глядзець бясконца

**4 БЕЛАРУСКАЯ МАДЭЛЬ ІМІТАЦЫЙ**

Калі аналізуеш рэальнасць па афіцыйных заявах, неабходна памятаць, што яны амаль не маюць дачынення да таго, што адбываецца на самай справе

**12 ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ РАДЫКАЛЬНЫХ БУДЫСТАЎ**



На гарызонце паўстае новая пагроза — будысцкі фундаменталізм

**15 ГІСТОРЫЯ АДНАГО БРЭНДА**

Ля Заслаўя знаходзіцца вёска Шапавалы. У пачатку 1930-х гадоў тут была пабудавана стражніца польскага Корпуса аховы памежжа. Будынак быў з цэглы, а падлогу выклалі кафляй вядомай фірмы «Дзевульскі і Ланге»



# Каго зробяць вінаватым у крызісе?

## Выступаючы ў парламенце, Лукашэнка так і не патлумачыў, чаму валюта знікла з абменнікаў



Сяргей ПУЛЬША

Зразумела, на пазачарговай сесіі парламента Аляксандр Лукашэнка быў заняты іншымі справамі. Яму трэба было прадставіць для фармальнага зацвярджэння новага прэм'ер-міністра Беларусі. Адначасова ён распавёў пра паўнамоцтвы міністраў, далейшую працу ўрада (як гэта бачыць ён) і гэтак далей. Аднак чакалі ад яго зусім іншага.

Чакалі, што кіраўнік Беларусі назаве каго-небудзь, адказнага за тое, што здарылася напярэдадні новага года. Але ён так і не рызыкнуў казаць пра дэвальвацыю. Усяго толькі адзін раз у ягоным выступе прагучала гэтае азначэнне, і тое — толькі для апісання знешніх пагроз і фактараў дэстабілізацыі эканамічнай сітуацыі ў краіне. «Санкцыі, контрсанкцыі, парад дэвальвацый нацыянальных валютаў у нашых суседзяў, сціск сусветных рынкаў і абвал сусветных коштаў на нафту. Вайна ва Украіне і шэраг іншых негатыўных фактараў. Адкрытая эканоміка Беларусі хваравіта рэагуе на наступствы такіх падзей», — сказаў ён.

Магчыма, у Аляксандра Рыгоравіча была прычына не казаць пра праблемы ў фінансавым сектары Беларусі. Магчыма, ён зберог гэтую тэму для сваёй вялікай прэс-канферэнцыі, якая павінна прайсці 29 студзеня. А тое журналістам казаць увогуле няма чаго будзе. А магчыма, ён зрабіў гэта свядома, каб не правакаваць народ збірацца ў абменніках у чарговы раз. Хаця ён, народ, і без гэтага ўжо стаіць ля валютных шапікаў у чэргах у спадзяванні, што нехта ўсё ж здасць долары.

Замест дэвальвацыі Аляксандр Рыгоравіч падкінуў для абмеркавання тэму датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў. Прынамсі, такі ўкід быў адрасаваны некаторым вядомым палітолагам праз інтэрнэт.

Пры гэтым, беларускі правадыр запэўніў, што ў датэрміновых прэзідэнцкіх выбарах няма ніякай неабходнасці. «Калі нам народ давярае — ён падтрымае нас у самыя цяжкія часы», — сказаў кіраўнік сінявокай.

Дзіўна, што тэма пазачарговых прэзідэнцкіх выбараў прагучала з вуснаў кіраўніка краіны. Варта зазначыць, што ўсе тыя беларускія палітолагі і журналісты, якім быў адрасаваны зліў пра датэрміновае прызначэнне выбараў, адмовіліся яго каментаваць як відавочнае глупства. Не кажучы ўжо пра тое, што каментары ў іх правілі нейкія «ананімы», якія падпісваліся чужымі прозвішчамі і ад імя выданняў, якія пра такіх «сваіх» журналістаў і не чулі. Гэты фэйк абверг нават адыёзны расійскі канал LifeNews.

Здавалася б, не справа кіраўніка краіны каментаваць чуткі. Але нехаця задумаешся, хто зрабіў такі ўкід. Ці сапраўды гэта нейкія «расійскія крыніцы», альбо айчынныя нябачныя байцы інтэрнэту. Каб «перавесці стрэлкі» з абмеркавання надзённых праблемаў на «танную сенсацыю». Тое, што пра гэта пачаў казаць Аляксандр Рыгоравіч, — таксама спроба перавесці размову з непрыемных пытанняў пра эканоміку на звыклыя палітычныя рэйкі.

Але ўсё ж такі Аляксандр Рыгоравіч не стрымаўся двойчы. Першы раз, калі казаў пра «парад дэвальвацый у нашых суседзяў». І ў другі раз — адразу пасля ягоных словаў пра народную падтрымку ён заявіў: «Але такіх (цяжкіх, — аўт.) часоў у Беларусі не будзе. Я ўсіх магу запэўніць — мы зробім усё, каб мінімізаваць наступствы тых катаклізмаў, якія створаны не намі і не на нашай тэрыторыі».




**Абсалютна ўсе праблемы на Расію спісаць не ўдасца**

Зразумела, гэта закідон у бок Расіі. Гэта з-за яе дзеянняў з'явіліся «санкцыі, контрсанкцыі, вайна ва Украіне, парад дэвальвацыяў у нашых суседзяў». Нават падзенне сусветных коштаў на нафту не спішаш на звыклага ворага — ЗША і Еўрасаюз, бо ўсе разумеюць, што яны не з'яўляюцца асноўнымі нафтаздабытчыкамі. Але ці застанецца Расія вінаватай у адзіноце?

Абсалютна ўсе праблемы на Расію спісаць не ўдасца. Значыць, мы зноўку пачуем і размовы пра народ, які немаведама чаму пачаў біцца за валюту ў абменніках.

Не выпадае казаць пра «вінаватых» з боку ўлады, таму што гэтыя «вінаватыя» нікуды з улады не падзеліся. Міхаіл Мясніковіч стаў старшынёй Савета Рэспублікі, тры ягоныя намеснікі — Міхаіл Русы, Уладзімір Сямашка і Анатоль Калінін — так і засталіся намеснікамі новага прэм'ера. «Пасунулі» хіба што Пятра Пракаповіча, якому ўжо даўно час на пенсію.

І, канешне, ніхто не згадае: а хто ж увесь час праводзіць такую палітыку, што мы крыху меней, чым поўнасцю «завязаны» на Расійскую Федэрацыю? Хто, нягледзячы на ўсялякія патрабаванні дыверсіфікацыі эканомікі, падпісаў чарговы інтэграцыйны праект ЕАЭС? Хто прывязаў эканоміку Беларусі да расійскага крызісу? Між іншым, гэта ўжо не ў першы раз — дэвальвацыя–2009 у нас таксама была абумоўлена расійскім крызісам канца 2008 года.

Канешне, мы ў чарговы раз пачуем, што 50% нашага экспарту-імпарту — гэта Расійская Федэрацыя. Аднак усе (ужо ўсе!) нашы суседзі неяк жывуць без крызіснага «вялікага брата». Латвія, Літва, Эстонія былі ў свой час завязаныя на Расію не менш, чым Беларусь, але нешта там не чуваць пра валютныя крызы. Украіна перажыла ў мінулым годзе дэвальвацыю ў 100%, але, па-першае, там зараз вайна, а па-другое, без Расіі, як пяецца ў ейным гімне, «не ўмерла».

Відавочна, што з прывязкай да крызісу трэба нешта рабіць. Але спачатку трэба асэнсаваць свае памылкі. Ці дачакаемся мы гэтага?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### САЛІГОРСК. Ідэолагам пракуратура не ўказ

**Салігорскі райвыканкам адмаўляецца надаць галоснасці сваму рашэнню, на падставе якога быў забаронены пікет да Дня правоў чалавека на Цэнтральнай плошчы горада.**

Нават пад ціскам пракуратуры ідэолагі працягваюць адфутбольваюць мясцовых праваабаронцаў на адпаведныя пошукі ў «Занальны дзяржаўны архіў у г. Слуцку».

Напрыканцы снежня пракурор Салігорскага раёна Алег Аўдзей прадпісаў старшыні Салігорскага райвыканкаму Аляксандру Рымашэўскаму вырашыць пытанне з выдачай мясцоваму прадстаўніку Беларускага Хельсінскага Камітэта Леаніду Мархотку копію таямнічага выканкамаўскага рашэння ад 07.10.2004г. №700 «Аб мерах па папярэджанні надзвычайных здарэнняў і захаванні законнасці пры правядзенні масавых мерапрыемстваў». Таксама пракурор узняў перад раённымі ўладамі пытанне размяшчэння гэтага рашэння на афіцыйным выканкамаўскім сайце.

Начальнік аддзела па ідэалагічнай працы Салігорскага райвыканкама Ларыса Жукава адрэагавала на пракурорскі зварот афіцыйным адказам. Але прадставіць копію таямнічага рашэння чыноўніца зноў адмовілася. Адзінай рэакцыяй яе на ліст з пракуратуры была прапанова самастойна пашукаць прадстаўніку БХК гэты дакумент у слуцкім занальным дзяржархіве.

На думку Леаніда Мархоткі, закрытасць дзяржаўных органаў і нежаданне чыноўнікаў адэкватна рэагаваць на патрэбы грамадзян цягне за сабой цэлы шэраг негатыўных наступстваў як у грамадска-палітычнай, так і ў сацыяльна-эканамічнай сферах.

### БАРАНАВІЧЫ. Суд спыніў справу супраць чыноўнікаў

**Намесніку начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага райвыканкама Дзмітрыю Варвашэні ўдалося пазбегнуць пакарання за ўжыванне фізічнай сілы ў адносінах да Івана Афанасіка.**

Другі крыўдзіцель Івана Афанасіка — старшыня калгаса «Зарэчанскі» Віктар Савось не толькі не быў прыцягнуты да адказнасці, але і не прыйшоў нават у суд.

У безадказнасці мясцовых чыноўнікаў перад законам змаглі пераканацца ўсе прысутныя ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы, калі разглядалася справа аб адміністрацыйнай адказнасці Дзмітрыя Варвашэні па арт. 23.39 КаАП (самаўпраўства). Суддзя Юльяна Шчэрба праз 10 хвілін спыніла адміністрацыйную справу супраць чыноўніка з-за тэрміну даўніны.

«Міліцыя склала пратакол на Варвашэню за самаўпраўства і рукапрыкладства яшчэ 12 лістапада 2014 года. Больш за 2 месяцы міліцыянеры і суддзі рабілі выгляд, што вывучаюць справу, а на самай справе наўмысна зацягвалі час, каб праз 2 месяцы сказаць мне ў судзе, што тэрмін прыцягнення да адказнасці скончыўся», — паведаміў Іван Афанасік.

Нагадаем, што прадстаўнік Баранавіцкага райвыкама Дзмітры Варвашэня і старшыня калгаса Віктар Савось з ужываннем фізічнай сілы 12 лістапада 2014 года выкінулі Івана Афанасіка з мясцовага Дома культуры на вачах аднавяскоўцаў. Ён быў адзіны, хто паспрабаваў заступіцца за дырэктара Дома культуры Людмілу Галёву, якую звальнялі з працы.

Іван Афанасік будзе скардзіцца ў вышэйшыя органы ўлады і суды.

### ГРОДНА. Гарвыканкам не дазволіў пікеты

**Прадстаўнікі Гродзенскай арганізацыі АГП атрымалі з гарвыканкаму адмову на правядзенне пікетаў, прысвечаных грамадскаму рэагаванню на валютна-фінансавы крызіс і патрабаванню адстаўкі прэзідэнта і чальцоў ураду, якія вінаваты ў крызісе.**

Сябры АГП мелі намер правесці пікеты з мэтай інфармавання насельніцтва гораду.

Асобныя заяўкі на правядзенне пікетаў падавалі старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі АГП Аляксандра Васілевіч і старшыня Гродзенскай гарадской структуры партыі Ежы Грыгенча.

У адказе чыноўнікаў за подпісам намесніцы старшыні гарадского выканкаму Зоі Кулешы адмовы абгрунтаваны стандартнай фармулёўкай: у сувязі з непрадстаўленнем дамоваў на забеспячэнне грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўвання і прыборку тэрыторыі. Пры гэтым актывісты АГП у сваіх заявах прасілі гарвыканкам дапамогі ў заключэнні такіх пагадненняў і прыклалі пісьмовыя абавязальніцтвы па аплаце адпаведных паслуг.

**Паводле spring96.org**

# Год без Генадзя Грушавога

Генадзь КЕСНЕР

**28 студзеня 2014 года пакінуў гэты свет чалавек, якому абавязаны сваім здароўем і нават жыццём тысячы беларусаў. Імя яго — Генадзь Уладзіміравіч Грушавы.**

Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, доктар філасофскіх навук, прафесар. Але найперш — заснавальнік і бязьзменны кіраўнік Беларускага дабрачыннага фонда «Дзецям Чарнобыля». Прайшоў год, як яго няма сярод нас. Але ён ёсць. У сваіх учынках, у нашай памяці.

Гэтымі днямі шмат хто ўзгадае Генадзя Грушавога не толькі як выбітнага навукоўца і палітыка, філосафа і дабрачынцу, але і як проста добрага сябра, калегу, як сапраўднага Чалавека. Няхай часам і з няпростым характарам. Генадзь Уладзіміравіч пяць гадоў змагаўся з той хваробай, якую прынёс беларусам Чарнобыль — з лейкеміяй. Гэтая хвароба сталася наступствам яго безлічных паездак у рэгіёны Беларусі, страшэнна забруджаныя «мірным» атамам. Нішто не бывае проста так. І вось гэтая трыклятая радыяцыя забіла выбітнага беларуса. Пра Грушавога можна казаць бясконца. Сваімі думкамі пра Генадзя Уладзіміравіча з «Новым Часам» дзеліцца доктар юрыдычных навук, прафесар, суддзя першага складу Канстытуцыйнага суда незалежнай Беларусі Міхаіл Пастухоў.

— Гады не маюць улады над памяццю людзей, якія ведалі Генадзя Грушавога — чалавека вельмі мудрага, вельмі светлага па сваёй натуры, які вельмі шмат зрабіў дзеля таго, каб людзям у Беларусі жылося лепш. Асабліва дзецям, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы. Яго ўнёсак у рэабілітацыю дзяцей асабліва з тэрыторыяў, забруджаных радыенуклідамі, неацэнны. Створаны ім фонд «Дзецям Чарнобыля» фактычна даў пуцёўку ў жыццё многім дзясяткам тысяч дзетак. І вельмі важна, што гэтыя дзеці не проста аздаравіліся ў еўрапейскіх краінах, але і пабачылі свет. Гэты досвед дазволіць ім стаць сапраўднымі грамадзянамі Беларусі, грамадзянамі Еўропы, грамадзянамі Свету.

Я асабіста буду помніць Генадзя Уладзіміравіча ўсё сваё жыццё і рабіць усё магчымае, каб памяць пра яго засталася на зямлі беларускай. Прыйдзе час, калі мы зможам адкрыць музей Генадзя Грушавога, будуць яшчэ вуліцы, цэнтры імя Генадзя Грушавога.

Я ўяўляю яго жывым, пастаянна актыўным, энергічным, і заўсёды ўяўляю яго на нашай зямлі вясёлым. Гэты чалавек не здаваўся цяжкой хваробе да апошняга свайго дня. Ён заўжды выпраменьваў энергію, струменіў вельмі добрымі ідэямі і, што самае важнае, ён праз свае магчымасці заўджы імкнуўся гэтыя ідэі ажыццявіць. Вось такіх людзей, як Генадзь Грушавы, як мне падаецца, нам усім зараз вельмі не хапае. Гэта людзі — Светачы, людзі — Ікары, Праметэі, якія неслі святло ў грамадства і якія нястомна рабілі добрыя справы. Таму магу сказаць, што памяць пра Генадзя Уладзіміравіча Грушавога заўжды будзе з намі, у нашых справах. І я ўпэўнены, што грамадзяне новай дэмакратычнай Беларусі аддадуць належнае гэтаму слыннаму сыну беларускага народа.

# Беларусь развіталася з Анатолем Грыцкевічам

Аксана КОЛБ

**«20 студзеня, пасля цяжкай хваробы на 86-м годзе жыцця памёр доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч», — паведаміла «Наша Ніва». Прачытала гэта, і шчымліва забалела за грудзінай.**

Гісторык-легенда. Ён заўсёды быў прыкладам для тых, хто цікавіўся спадчынай, любіў гісторыю і Беларусь. Ён заўсёды быў прыкладам для тых, хто меў смеласць выказваць сваё меркаванне, мець свае погляды.



Не, я не ведала Анатоля Пятровіча асабіста, але заўсёды захаплялася яго навуковымі артыкуламі, грамадзянскай пазіцыяй і яго невягагодным працаздольнасцю.

Ён нязменна выказваў свой погляд на гісторыю Беларусі як самастойнай і сапраўды еўрапейскай дзяржавы. Ён даводзіў, што нашаму народу са сваёй мовай і культурай належала вызначальная роля ў стварэнні і развіцці ВКЛ. Ён падштурхнуў шмат каго да беларушчыны сваімі навуковымі даследаваннямі і сваёй пазіцыяй…

Беларусь смуткуе… Яна страціла яшчэ аднаго годнага грамадзяніна. Смуткуюць сваякі і сябры. Смуткуюць і тыя, хто ведаў Анатоля Пятровіча толькі па СМІ. Але тое, што ён паспеў зрабіць у гэтым жыцці, застанецца з намі.

Адпяванне Анатоля Пятровіча Грыцкевіча адбылося 22 студзеня ў Чырвоным касцёле. У лепшы свет яго праводзілі сябры, паплечнікі, калегі, вучні, паслядоўнікі і проста незнаёмыя людзі. Краіна развіталася з адным з найлепшых сваіх сыноў.

Пасля крэмацыі прах Анатоля Грыцкевіча пахаваюць у магіле маці на Усходніх могілках Мінску.

# На якой мове вывучаць гісторыю?

**Гісторыю Беларусі і геаграфію ва ўстановах адукацыі трэба вывучаць на беларускай мове. Такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў, перадае БелТА.**

Наконт пытання вывучэння гісторыі і геаграфіі на беларускай мове міністр правядзе нараду з педагагічным актывам Беларусі.

Плануецца, што пасяджэнне пройдзе да канца студзеня, у ім возьмуць удзел прадстаўнікі навучальных установаў усіх рэгіёнаў краіны, аўтарскіх калектываў, якія працуюць над стварэннем навучальных комплексаў, а таксама вучнёўскіх радаў.

«Вывучаць геаграфію і гісторыю Беларусі, вядома ж, трэба на беларускай мове. Я думаю, што паступова самі дзеці прыйдуць да таго, што захочуць вывучаць палову ці большую частку прадметаў агульнаадукацыйнай школы на беларускай мове. Толькі праводзіць гэты працэс педагог павінен акуратна, з любоўю да мовы і разуменнем дзіцячай псіхалогіі», — сказаў міністр.

«Мы праводзілі ў БДУ спецыяльнае пасяджэнне і анкетаванне студэнтаў, педагогаў, супрацоўнікаў па вывучэнні магчымасцяў выкладання прадметаў на беларускай мове. Выказванні былі як «за», гэтак і «супраць». А гэта значыць, што тым, хто хоча вывучаць сваю спецыяльнасць на беларускай, трэба даць гэтую магчымасць», — лічыць Міхаіл Жураўкоў.

Міністр падкрэсліў, што размаўляць на роднай мове павінен кожны паважаючы сябе беларус.

«У гэтым няма сумневу. Але пры гэтым мы павінны разумець, што ў Беларусі шмат рускамоўных выхароў, і працэс вывучэння імі беларускай мовы павінен быць паступовым і якасным», — рэзюмаваў Міхаіл Жураўкоў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Закон захавання ў дзеянні

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Не, канешне, прышпільна назіраць за тым, як узнікаюць і знікаюць грошы. Падаецца, гэта чацвёртая рэч, на якую можна глядзець бясконца.**




Мы дэвальвавалі беларускі рубель. Неяк крывавата атрымалася, але дэвальвавалі. Але валюты ў абменніках дагэтуль няма. Тым не менш, Нацбанк, падаецца, падзарабіў на тое, каб глядзець, як узнікаюць грошы.

На гэтым тыдні наш галоўны банкаўскі рэгулятар заявіў, што ён «прапрацоўвае пытанне» аб увядзенні ў абарачэнне грашовай купюры наміналам у 500 000 беларускіх рублёў. «Увядзенне новага наміналу банкнот (Br500 000) знаходзіцца ў стадыі прапрацоўкі. Рашэнне аб змене ў наяўным грашовым звароце Беларусі будзе прымацца зыходзячы з сітуацыі, якая складваецца ў эканоміцы, пра што Нацыянальны банк загадзя праінфармуе ўсіх зацікаўленых», — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

Размовы пра новую купюру ходзяць ужо тры гады, з сакавіка 2012-га, калі ў абарачэнне была выкінутая купюра ў 200 тысяч. Тады адразу ж загаварылі і пра паўмільённую паперачку. У той час ужо экс-кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова адзначыла, што яна можа з'явіцца «пры далейшым росце заробкаў». Аднак, па яе меркаванні, «калі сітуацыя ў нашай краіне складзецца такім чынам, што з'явіцца неабходнасць у выпуску новай купюры ў 500 тысяч рублёў, то будзе больш правільна правесці дэнамінацыю».

І вось Нацбанк зноў загаварыў пра купюру ў 500 тысяч. Гэта значыць, што мы можам рыхтавацца і да дэнамінацыі? Не, гэта азначае, што ў Нацбанка з'явіліся грошы. Прычым, не рублі, а тыя самыя долары, якія немагчыма знайсці грамадзянам у абменніках.

Тая ж Ермакова казала, што «для таго, каб яе (купюру ў 500 тысяч рублёў. — аўт.) надрукаваць, патрэбныя вялікія грошы. Гэта не адзін дзясятак мільёнаў долараў».

А значыць, у Нацбанка гэты «не адзін дзясятак мільёнаў долараў» аднекуль узнік. А калі нешта аднекуль узнікае, то, значыць, аднекуль яно ж знікае. Валюта на друк 500-тысячнай купюры ў Нацбанка ёсць, а ў абменніках яе няма. Ну і хто вычарпаў усю валюту з абменнікаў, справакаваўшы валютны крызіс? Народ?

Тое, што новая купюра з'явіцца ў нас даволі хутка, амаль не выклікае сумневаў. Па-першае, зараз — год прэзідэнцкіх выбараў, і, як заўсёды, трэба «падкарміць» электарат. Грошы на гэта ўзяць можна толькі ў адным месцы — у друкарскім станку. А па-другое, той жа Нацбанк ужо паведаміў, што мэтавы прагноз па інфляцыі на 2015 год у межах 12% павінен быць перагледжаны. «Прагнозны паказчык інфляцыі запатрабуе ўдакладнення», — кажуць там. Значыць, новыя грошы друкавацца ўсё ж будуць.

**Нікуды не знікаюць не толькі грошы, але і ідэі. У нас з'явілася альтэрнатыва «георгіеўскім стужачкам». Пераможным сімвалам стане стужачка ў чырвона-зялёным колеры з яблыневай кветкай**

Нікуды не знікаюць не толькі грошы, але і ідэі. Вось адна цытата.

«Існуе меркаванне, што ў сучасным свеце няма месца нацыянальным культурам, а на змену ім прыходзіць адна — глабальная. Мяркую, што гэта не так. Культура — вось што робіць беларуса беларусам, а не проста «тутэйшым», у якім бы пункце зямнога шара ён ні знаходзіўся. Не толькі наша самая багатая спадчына: літаратура, музыка, архітэктура, але і мова, якую мы павінны ведаць, гісторыя, якую мы павінны помніць, і каштоўнасці, якія мы павінны паважаць», — хто сказаў?

Нешта падобнае я чуў гадоў дваццаць таму з вуснаў паважанага, але даўно забытага Зянона Станіслававіча Пазняка. Зараз гэта кажа не хто іншы, як Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, выступаючы на тыдні на з'ездзе Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, БРСМ. Відавочна, што для Аляксандра Рыгоравіча не прайшлі дарма стасункі з Пазняком у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Позна, але кіраўнік дзяржавы эвалюцыйным шляхам усё ж прыйшоў да таго, пра што казаў Пазняк. Паўстае пытанне: хто тут БН-Фавец?

Кіраўнік дзяржавы пайшоў нават далей за свайго папярэдніка. Ён заклікаў моладзь рыхтавацца да вайны ў абарону незалежнасці. «Адна з найважнейшых задач моладзі — гатоўнасць да абароны сваёй Радзімы. Гэта не пафасная фраза, а патрабаванне жыцця... Тое, што адбываецца ў свеце і ўжо ў непасрэднай блізкасці ад нашых межаў, практычна ля парога нашага дома, прымушае ўспомніць урокі гісторыі і запаветы пакалення пераможцаў аб неабходнасці як зрэнку вока берагчы Бацькаўшчыну», — зазначыў Лукашэнка.

А яшчэ ў нас з'явілася альтэрнатыва «георгіеўскім стужачкам». Аляксандр Рыгоравіч падтрымаў праект БРСМ «Цветы великой Победы». Пераможным сімвалам стане стужачка ў чырвона-зялёным колеры з яблыневай кветкай.

Гэта значыць, бывай, дыскрэдытаваўшая сабе «стужка Георгія»? А заадно з ёй — бывай, братэрская Расія? Хопіць ужо дыктаваць нам сваю версію гісторыі?

Цікава, праўда, атрымаецца. «Георгіеўская стужачка» зразумела чаму з'явілася — гэта частка ордэну расійскага Святога Георгія Пераможцы, якая перакачавала ў савецкі Ордэн Славы. А вось у якіх узнагародах узнікае чырвона-зялёная стужка? Найперш, гэта беларуская незалежная ўзнагарода — Ордэн Айчыны. А дзе яшчэ? Гэта венгерскі каралеўскі ордэн Святога Стэфана, Ордэн Асманіе (Асманская імперыя) і Ордэн Дарыя — узнагарода Вялікай Азіяцкай Імперыі, якая ёсць «экстэрытарыяльнай віртуальнай дзяржавай». То бок, створаная нейкімі энтузіястамі ў інтэрнэце.

Але ж у сучасным свеце гісторыя — гэта міфатворчасць. Напрыклад, па меркаванні Пуціна, Крым для Расіі «мае аграменнае цывілізацыйнае і сакральнае значэнне, як Храмавая гара ў Ерусаліме для тых, хто вызнае іслам і іудаізм». А ўжо калі руская цывілізацыя, аказваецца, пайшла з Крыму, то чаму б і нам не выдумаць, што з чырвона-зялёнымі стужкамі беларуская партызаны кідаліся з мінамі пад рэйкі фашыстоўскіх цягнікоў? І ўвогуле, сцяг над Рэйстагам, насамрэч, быў чырвона-зялёным, толькі сфатаграфавалі яго так, што бачна толькі чырвонае. Альбо: «Што ж вы хочаце — фотаздымак чорна-белы, зялёнага там проста не бачна!».

І яшчэ лепей — сумясціць прыемнае з карысным: выпусціць новую 500-тысячную купюру ў чырвона-зялёным колеры з яблыневай кветкай. Тады дакладна яе будуць насіць ля сэрца!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мітрапаліт Павел



**Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі на гадавіну свайго прызначэння адзначыўся гучнымі заявамі.**

Месяц таму ён казаў, што Беларуская праваслаўная царква мае права на большую самастойнасць, і нават, з улікам падтрымкі вернікаў, меў намер выносіць гэтае пытанне на рашэнне Сінода. «Я прыхільнік таго, каб Беларуская Праваслаўная Царква была магутная, моцная», — казаў ён.

На гэтым тыдні ён жа заявіў, што пытанне пра самакіраванне БПЦ у бліжэйшыя гады ўздымацца не будзе. «Я як епархіяльны архірэй, як экзарх, прыняў рашэнне гэтае пытанне зняць з парадку дня. Карыстаючыся магчымасцю, усім хачу сказаць: сябры, давайце больш не хвалявацца, абмяркоўваць гэтую тэму. Гэтае пытанне на няпэўны час трэба закрыць. Тэма здымаецца з парадку дня», — сказаў Уладыка.

Што ж здарылася? Атрымалася, што Паўла з ягоным імкненнем да самакіраванасці проста падставілі. Як сам Уладыка патлумачыў журналістам, «адзін надта набожны чалавек на працоўнай нарадзе падчас сходу Епархіі мінскай мітраполіі ўключыў мікрафон і, можна сказаць, у прамым эфіры перадаваў усё тое, што адбываецца ў нас на пасяджэнні. У выніку атрымалася так, што неапрацаваны, некансктруктыўны матэрыял быў прадстаўлены грамадскасці на дыскусію».

## Мікалай Статкевіч



**За два дні знаходжання ў калоніі на экс-кандыдата ў прэзідэнты склалі два рапарты за парушэнне турэмнага рэжыму.**

Першы рапарт быў складзены за парушэнне ўсталяванай формы адзення — адміністрацыя калоніі «не прапусціла» штаны, выданыя Статкевічу ў магілёўскай турме. За што складзены другі рапарт, пакуль не вядома.

У сувязі з гэтым праваабаронцы мяркуюць, што на Статкевіча хочуць завесці новую крымінальную справу па артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса «Парушэнне ўнутранага распарадку турмы», па якім вязню дадаткова пагражае каля года.

Па словах праваабаронцы Валянціна Стэфановіча, гэты артыкул ужо выкарыстоўвалі ў дачыненні да «палітычных»: спачатку ў дачыненні да Змітра Дашкевіча, а цяпер — да Мікалая Дзядка. «Тэарэтычна, цяпер пад пагрозай апынуўся і Статкевіч, але не больш, чым любы іншы зняволены беларускай турмы. Паглядзім, калі ў уладаў ёсць задача не выпускаць яго з турмы любымі шляхамі, тады яны могуць прымяніць гэты артыкул і да яго», — рэзюмуе праваабаронца.

## Мішэль Плаціні



**Кіраўнік УЕФА наведаў з рабочым візітам Беларусь.**

Плаціні сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Кіраўнік краіны запэўніў футбольнага чыноўніка, што юнацкі чэмпіянат Еўропы па футболе сярод дзяўчат у 2016 годзе ў Беларусі пройдзе на вышэйшым узроўні, папрасіў яго «дапамагчы нам больш сур'ёзныя спаборніцтвы ў гэтым відзе спорту» і ўзнагародзіў Плаціні ордэнам Нацыянальнага алімпійскага камітэта «за вялікі ўнёсак у развіццё беларускага футбола».

Пасля сустрэчы з Лукашэнкам Мішэль Плаціні адправіўся ў Беларускую федэрацыю футбола, а затым у размешчаны побач футбольны манеж, дзе праходзіць міжнародны юнацкі турнір «Кубак развіцця». Ён паглядзеў першы тайм матчу Беларусь — Чэхія, а затым з'ехаў разам са старшынёй БФФ Сяргеем Румасам і яго першым намеснікам Сяргеем Сафар'янам. Плаціні прайшоў міма журналістаў, якія яго чакалі, а на просьбу карэспандэнта БелаПАН адказаць на некалькі пытанняў, каля машыны моўчкі зрабіў жэст рукой, які азначае адмову.

Зараз мы проста ў разгубленасці: што гэта было і навошта Плаціні завітаў у сінявокую?

а | Азбука паліталогіі

# Беларуская мадэль імітацый



Сяргей НІКАЛЮК

**Калі аналізуеш рэальнасць па афіцыйных заявах, неабходна памятаць, што яны амаль не маюць дачынення да таго, што адбываецца на самай справе.**

З 4 па 7 студзеня ў Мінску прайшоў XI Калядны міжнародны турнір аматараў хакея. Настаўнікі сярэдніх школ прынялі ў турніры самы актыўны ўдзел. Зразумела, у якасці заўзятараў. Зразумела, за адгулы. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Такая ў нас традыцыя, ініцыятарам якой у свой час выступіла дзяржава. Яна ж традыцыю і падтрымлівае.

Як вядома, адзіны палітык (АП) пастаянна патрабуе ад чыноўнікаў «уважлівага стаўлення да людзей». Гэта патрабаванне распаўсюджваецца і на чыноўнікаў, якія адказваюць за запаўненне трыбунаў на міжнародных турнірах.

Пра ўзровень іх увагі сведчаць электронныя лісты, атрыманыя дырэктарамі мінскіх школ 5 студзеня. Як аказалася, замест таго, каб актыўна заўзець, «настаўнікі вялі на трыбунах свецкія размовы».

### За 2013 год матэрыялаў няма

Імітацыйнасць — адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі. Няма такой эканамічнай, сацыяльнай або палітычнай з'явы, якую яе бацькі-заснавальнікі не змаглі б імітаваць. Імітацыя масавай цікавасці да афіцыйных спартовых мерапрыемстваў — гэта дробязі. У эканоміцы імітуецца развіццё, у сацыяльнай сферы — адзінства народа, у палітыцы — дэмакратыя.

Колькасць імітацый спараджае не проста якасць. Яна спараджае новую рэальнасць. Як тут не прыгадаць сацыёлага Сімона Кардонскага. Ёсць рэальнасць, якую дазволена абмяркоўваць публічна. Яе палітычны складнік апісаны ў Канстытуцыі. І ёсць тое, што адбываецца на самай справе.

У гэтай рэальнасці мы маем поўныя трыбуны заўзятараў, прычым не толькі спартыўных, але і электаральных. Колькасць апошніх такая вялікая, што «псіхалагічна не ўспрымаецца». Таму даводзіцца АП перыядычна ўносіць карэкціроўкі, «каб не 93% было, а недзе там 80».

Якая колькасць электаральных заўзятараў на самай справе — пытанне адкрытае. Апытанні НІСЭПД «не могуць даць якасных вынікаў». Такой думкі прытрымліваецца дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) Аляксей Дзербін. Чаму не могуць? Дапытлівых адсылаю да студзеньскага інтэрв'ю кіраўніка гэтай аўтарытэтнай структуры. Яно размешчана на сайце БЕЛТА.

Якасныя вынікі дае ІАЦ. Заходжу на сайт. Адкрываю раздзел «Сацыялагічныя даследаванні». Чытаю: «Сёння Цэнтрам вядзецца аналітычная дзейнасць па стратэгічных напрамках дзяржаўнай палітыкі. Да асноўных задач ІАЦ належаць аналіз унутрыпалітычных працэсаў, ацэнка палітычнай сітуацыі ў краіне і падрыхтоўка прапаноў, накіраваных на аптымізацыю ўзаемаадносін паміж дзяржаўнай уладай і грамадствам. Па сутнасці, тэматыка, па якой праводзяцца сацыялагічныя даследаванні, разнастайная і ахоплівае практычна ўсе бакі жыцця беларускага грамадства».

За 2014 знаходжу адзін аналітычны матэрыял: «Медыясфера Беларусі». Гэта да пытання аб разнастайнасці тэматыкі. За 2013 год матэрыялаў няма. Тут без каментараў. За 2012 год — адна салідная справаздача: «Рэспубліка Беларусь у люстэрку сацыялогіі».

Не так і часта! За грошы падаткаплацельшчыкаў, не так і часта! Гледзячы на такую справаздачнасць, пачынаеш разумець актуальнасць дэкрэта №5 «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікам арганізацый».

### Ну, вы ж павінны разумець…

Калі хто-небудзь з чытачоў НЧ спадзяецца ў «люстэрку сацыялогіі» адшукаць інфармацыю аб рэйтынгу АП, то ён будзе расчараваны. Такімі нязначнымі даследаваннямі ІАЦ не займаецца.

Аднак не выключана, што я паспяшаўся з такой высновай, і ўсе патрабаванні службовых інструкцый, супрацоўнікі ІАЦ выконваюць якасна і ў тэрмін. Праблема ж узнікае на стадыі публікацыі.

Растлумачу цытатай з любімага Кардонскага: «…калі я ў нейкім махнатым годзе падрабязна апісаў дзейнасць аднаго сельскага райкама партыі і аднаго сельскага выканкама партыі, то скончылася гэта крымінальнай справай, па якой пасадзілі даволі шмат народу. Такая сацыялагічная выпадковасць: зрабіў справаздачу ў адным экземпляры, гэты асобнік быў выкарыстаны ў рамках палітычнай барацьбы на ўзроўні краю. Значыць, апісанне сістэмы знішчае сістэму».

Што мы маем у рэальнасці, якую дазволена абмяркоўваць публічна? Мы маем адзіны беларускі народ, згуртаваны вакол фігуры нацыянальнага лідара. Ніякіх забаронаў на абмеркаванне такога кшталту згуртаванасці не існуе. Больш за тое, кожны ахвочы мае магчымасць уносіць прапановы па яе ўзмацненні. У гэтым пытанні ў нас поўная дэмакратыя.

Дарэчы, на днях новы старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч такой магчымасцю скарыстаўся. Яго прызначылі. Ён падзякаваў, і тут жа заклікаў дэпутатаў «у гэты важны гістарычны перыяд яшчэ мацней згуртавацца вакол лідара».




Апісанне сістэмы (не ў публічнай рэальнасці, а на самай справе) знішчае сістэму. У ІАЦ гэта выдатна разумеюць і без Кардонскага. Разумеюць гэта і ў Інстытуце сацыялогіі НАН РБ. Таму дазавана публікуюць вынікі даследаванняў. На маё пытанне: «Чаму не публікуеце?», адзін з кіраўнікоў інстытута даў вычарпальны адказ: «Ну, вы ж павінны разумець…» Мне 62 гады. Я разумею.

### Забытыя сацабавязальніцтвы

Уменне жыць адначасова ў дзвюх рэальнасцях усмоктвалі савецкім і постсавецкім чалавекам з малаком маці. Інакш прападзеш. Аднак разуменне ўладкавання сапраўднага жыцця ў кожнага з нас абмежавана ўласным гарызонтам. Што датычыцца навуковых ведаў пра сістэму ў цэлым, то яны адсутнічаюць. Сістэма на падсвядомым узроўні блакуе атрыманне такіх ведаў.

Замена кафедраў марксізму-ленінізму на кафедры паліталогіі і сацыялогіі нічога не змяніла. Спытайце любога ўладальніка ўніверсітэцкага дыплома, чаму на першым канстытуцыйным рэферэндуме яўка склала 64%, а на другім — 84%. Адказу не будзе. У рэальнасці, якую дазволена абмяркоўваць публічна, яго і не існуе. Ён з таго свету, які існуе на самай справе.

Але калі веды кіраўнікоў краіны абмяжоўваюцца гэтай рэальнасцю, то яны не толькі не змогуць эфектыўна вырашаць праблемы, яны не змогуць усведамляць іх наяўнасць. Што на практыцы і назіраецца.

Свежы прыклад. Ён звязаны са станоўчым момантам, які АП разглядзеў у цяперашні складаны перыяд: *«То, что нам сегодня не надо думать о выработке каких-то новых направлений. У нас перед правительством нет проблемы: а как быть, а как работать? Мы уже все пощупали не просто теоретически, в букварях где-то, в книжках почитали и думаем: подойдет — не подойдет. Мы это на практике проверили. Выбирай сегодня любой инструмент и действуй. Мы знаем, куда идти, как идти, что надо делать в процессе этого пути — все органы власти и управления это знают. И это великое достижение».*

Іншых вялікіх дасягненняў, акрамя сакральных ведаў наконт дакладна абранага шляху, у нас няма. Маштабная мадэрнізацыя скончылася маштабнымі стратамі. У 2013-м, афіцыйна абвешчаным у Беларусі Годам беражлівасці, рост інвестыцый у асноўны капітал на 7,4% забяспечыў зніжэнне чыстага прыбытку на 39,4%!

Але хто сёння ўспамінае сацыяльныя абавязацельствы, прынятыя на IV Усебеларускім народным сходзе? Яны выключаныя з публічнай рэальнасці. А тое, што існуе на самай справе, гучна ў нас не абмяркоўваюць.

У кіраўніцтве Расіі здольнасць усведамляць наяўнасць праблем істотна вышэйшая. Як яна рэалізуецца на практыцы — пытанне асобнае. Абмяжуюся адным прыкладам. «Старая энерга-сыравінная мадэль вычарпаная, гэта разумеюць усе, яна не можа даць ні ўстойлівага росту, ні стымулаў для інвестыцый у рэальную вытворчасць. Усё горш яна ўспрымае тэхналагічныя інавацыі, і галоўнае, не забяспечвае стабільнага павышэння ўзроўню жыцця». Гэта сказаў не апазіцыянер Навальны, а Дзмітрый Мядзведзеў на гайдараўскім форуме–2015.

### Я начальнік — ты дурань

Мяжа паміж рэальнасцю, якую дазволена абмяркоўваць публічна, і тым, што існуе на самай справе, не з'яўляецца абсалютна непранікальнай. Таму ў публічную прастору пастаянна ўкідваецца інфармацыя, якая з пункту гледжання Канстытуцыі не мае права на існаванне. Нескладана здагадацца, хто выступае ў ролі галоўнага ньюсмейкера.

Ужо першыя працоўныя дні новага года былі адзначаны такімі ўкідамі. Абмяжуюся двума:

*«Вы* (чальцы ўрада і супрацоўнікі АП) *— профессионалы, специалисты, и должны были представить исчерпывающий проект декрета без всякой политики: как на нас посмотрит некая пятая колонна в Беларуси или как российские и другие СМИ нас покритикуют за это. Вопросы политики вы, пожалуйста, адресуйте мне. Я буду принимать решение и учитывать политические нюансы».*

*«Решения министра должны выполняться немедленно. Любое решение, которое он примет, законно».*

Пра што першае сцвярджэнне? Пра манапалізацыю адным чалавекам палітычных правоў у краіне. Такая манапалізацыя існуе з канца 1996-га. Але гэта на самай справе. А ў публічнай рэальнасці? Паспрабуйце адшукаць адпаведны артыкул у Канстытуцыі. Я шукаў. У мяне не атрымалася.

З другім сцвярджэннем не ўсё так проста. Канстытуцыя надзяляе ўрад правам выдаваць часовыя дэкрэты, якія маюць сілу закона. Але, па-першае, яны павінны быць замацаваны подпісам прэм'ер-міністра. Па-другое, быць у трохдзённы тэрмін прадстаўлены для наступнага разгляду Палатай прадстаўнікоў, а потым Саветам Рэспублікі (артыкул 100). Якое ўжо тут «неадкладна»! Якія ўжо тут «любыя рашэнні»!

У праве міністраў прымаць любыя рашэнні, якія маюць сілу закона, лёгка адгадваецца савецкая класіка: «Я начальнік — ты дурань». Далёка не ўсе начальнікі ў СССР былі міністрамі. Але начальнікі на ўсіх узроўнях кіраўнічай іерархіі былі надзелены няпісаным правам (на самай справе) ставіцца да сваіх падначаленых як да дурняў. Любая іерархія фрактальная, г. зн. усе яе ўзроўні валодаюць уласцівасцю самападабенства.

# Юрый Рубцоў абвясціў галадоўку

Арцём ЛЯВА

**Грамадскі актывіст з Гомеля Юры Рубцоў абвясціў 22 студзеня бестэрміновую галадоўку. Напярэдадні мінскія актывісты пры падтрымцы Камітэта «Садлідарнасць» наведалі Юрыя, які адбывае паўтара гады так званай «хіміі» за абразу суддзі ў спецкамендатуры №7 вёскі Куплін Пружанскага раёна.**

Юры Рубцоў быў вельмі рады сустрэчы з аднадумцамі. У альтанцы адбылася сяброўская размова пра ўмовы ўтрымання, стаўленне да яго суседзяў і прадстаўнікоў адміністрацыі, умовы працы, палітычную сітуацыю ў краіне.

Палітвязень адмовіўся ад прапанаванай працы, бо яна не прадугледжвала годны заробак. Ён таксама не лічыць сябе вінаватым і адмаўляецца пісаць заявы на імя начальніка спецкамендатуры хоць з якой нагоды. Таму ён не можа пайсці на прагулкі за тэрыторыю ўстановы, атрымаць ад сяброў у пакой тэлевізар і нават даць афіцыйнае інтэрв'ю (на гэта трэба дазвол адміністрацыі).



### За годную працу і заробак

Юры Рубцоў вырашыў дабівацца працы з годным заробкам: «Няхай гэта будзе 600 долараў — сярэдні заробак па краіне, пра які кажа Лукашэнка. Няхай міліцыя пашукае такую працу». Адміністрацыя катэгарычна адмовіла. На гэта Рубцоў заявіў, што гатовы з 22 студзеня пачаць галадоўку. «Я патрабую працу з годным заробкам, а таксама хачу ім давесці, што «палітычных» саджаць нельга. Каб яны зразумелі, што, абмяжоўваючы свабоду людзей за іх палітычныя погляды, прадстаўнікі сілавых структураў, якія мусяць змагацца са злачыннасцю, самі становяцца злачынцамі», — падкрэслівае палітвязень.

Тым, хто адбывае «хімію», прапануюць працу ад 1 да 4 мільёнаў, і тое не кожнаму. «Многія людзі сядзяць без працы, ім нічога не прапануюць, бо няма працы па іх спецыяльнасці. Харчавацца людзі пры гэтым мусяць самі. Некаторыя, хто не мае падтрымкі ад сваякоў і сядзіць без працы, ледзь не галадаюць», — распавёў палітвязень.

### Палітычныя пытанні

У вольны час Юрый чытае чарговую кнігу Алеся Бяляцкага, якая падштурхнула яго да пэўных разважанняў: «На самай справе, палітыка існуе, каб усе пытанні вырашаць мірным шляхам, мірным шляхам можна зрынуць і несправядлівую ўладу. А для гэтага патрэбныя судовыя іскі. Масавыя заявы ў суд, напрыклад, пра тое, што людзям забараняюць праглядаць пэўныя сайты. Палітыка — мастацтва змяняць сітуацыю, паляпшаць жыццё грамадзян негвалтоўнымі метадамі, без рэвалюцый. На жаль, у нас палітыкі няма, ёсць палітыканы. І гэта ў плане будучых наступстваў вельмі непакоіць».

Адносіны Юрыя з насельнікамі спецкамендатуры складаюцца па-рознаму. Ёсць прыхільнікі, ёсць людзі з іншым меркаваннем. «Некаторыя хочуць скарыстацца тым, што мы маем адрозныя погляды, але я стараюся не весціся на правакацыі. Некаторыя стаяць за Лукашэнку гарой. «Цар добры, баяры кепскія». Не можа быць дзяржава моцнай пры бедных людзях. Не можа быць прэстыжам палац для Лукашэнкі, калі астатняя краіна жыве ў галечы», — кажа Юры.

### Пра ўмовы выжывання

Як распавёў Рубцоў, тыя, хто на «хіміі», мусяць самі гатаваць ежу, на гэта патрэбны час, а іх гвалтоўна гадзінамі трымаюць у «Ленінскім» пакоі. Там чытаюць лекцыі пра мараль і норавы.

Вада такой кепскай якасці, што яе немагчыма піць. Таму людзей выводзяць па ваду ў вёску.

«Я паводле інструкцыі магу хадзіць па гэтым дворыку. Але яны абавязаны за мной прыглядаць. Ім не заўсёды хочацца выходзіць на вуліцу. Тады яны проста кажуць: «На вуліцу нельга», — кажа Рубцоў.

**Даведка:**

6 кастрычніка 2014 года Юрый Рубцоў асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска паводле артыкула 391 Крымінальнага кодэкса («Абраза суддзі або народнага засядацеля») да 1 года і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу. 22 снежня 2014 года накіраваны для адбыцця пакарання ў вёску Куплін Пружанскага раёна. Раней, 28 красавіка 2014 года, суддзя Савецкага раёна Мінска Кірыл Палулех, які палічыў сябе абражаным, пакараў Юрыя Рубцова 25 суткамі адміністратыўнага арышту за нібыта «непадпарадкаванне законным патрабаванням міліцыі» і «дробнае хуліганства». Рэальная прычына затрымання і пакарання — нашэнне саколкі з надпісам «Лукашэнка, сыходзь!» на «Чарнобыльскім шляху».

На думку Юрыя, сістэма пабудаваная на рабскай працы. Пры гэтым з тых, хто адбывае пакаранне, яшчэ і бярэцца плата за пражыванне. Гарачая вада адзін дзень на тыдзень (як і душ). На першым паверсе агульная кухня. Удзень электрычнасць адключаюць, бо трэба эканоміць.

# Алеся Краўцэвіча — у рэктары ЕГУ

Марат ГАРАВЫ

**Рада беларускай інтэлігенцыі падтрымала кандыдатуру гісторыка Алеся Краўцэвіча на пасаду рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Пра гэта гаворыцца ў заяве на адрас кіраўнічай рады ЕГУ, прынятай 19 студзеня на пасяджэнні РБІ.**

Сярод падпісантаў заявы — старшыня РБІ, кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас, мовазнаўца Алена Анісім, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў, журналіст, выкладчык ЕГУ Анатоль Гуляеў, галоўны рэдактар газеты «Новы час», кандыдат гістарычных навук Аляксей Кароль, старшыня Таварыства беларускай школы, кандыдат філалагічных навук Алесь Лозка, доктар філалагічных навук Арсень Ліс, фотамастак Георгій Ліхтаровіч, мастак Аляксей Марачкін і кінадраматург Уладзімір Халіп.

У заяве адзначаецца, што ў Беларусі няма ніводнага ўніверсітэта, дзе выкладанне вялося б на беларускай мове. Так склалася яшчэ з часоў Расійскай імперыі і СССР, дзе ўніверсітэты адыгрывалі ключавую ролю ў адлучэнні беларусаў ад іх роднай мовы. Каб дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю, многія бацькі былі вымушаныя аддаваць сваіх нашчадкаў у рускія школы. Русіфікацыя праводзілася пад шырмай «інтэрнацыяналізму», беларускай мове надаваўся імідж неперспектыўнай, «вясковай», а тых, хто спрабаваў адстойваць свае правы карыстацца роднай мовай, абвясцілі «нацыяналістамі» і падверглі пераследу. Пра сапраўдную сутнасць такога імперскага «інтэрнацыяналізму» сведчаць падзеі ва Украіне.

Рэанімацыя крамлёўскімі ідэолагамі імперскай дактрыны «рускага свету» прадугледжвае, перш за ўсё, далейшую экспансію рускай мовы і абмежаванне карыстання нацыянальнымі мовамі ў краінах, якія ўваходзілі калісьці ў склад Расійскай імперыі. Менавіта таму ў Беларусі, эканоміка якой пастаўлена ў залежнасць ад расійскіх крэдытаў і энерганосьбітаў, мясцовыя ўлады спрыяюць далейшаму пашырэнню сферы рускай мовы і знішчэнню беларускай. Нягледзячы на тое, што, паводле апошняга перапісу насельніцтва, 83% жыхароў краіны назвалі сябе беларусамі і толькі менш за 8% — рускімі, улады застаюцца глухімі да шматлікіх патрабаванняў беларускіх грамадзян забяспечыць ім магчымасць атрымання адукацыі, у тым ліку ўніверсітэцкай, на беларускай мове.

Вялікія надзеі прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці звязвалі з ЕГУ, як навучальнай установай, створанай для беларусаў, якія жадаюць атрымаць адукацыю, што грунтуецца на беларускіх і еўрапейскіх культурных і маральных каштоўнасцях. Аднак, на вялікі жаль,



**Сярод кандыдатаў на пасаду рэктара ЕГУ ёсць асоба, якая адпавядае неабходным крытэрам. Гэта — вядомы беларускі медыявіст, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч**

трэба прызнаць, што такія надзеі не спраўдзіліся. У ЕГУ, як і ва ўсіх універсітэтах Беларусі, руская мова выкладання застаецца дамінуючай. Пры гэтым пагардлівае стаўленне да беларускай мовы ў ЕГУ ні ў якім разе нельга разглядаць як «свабоду выбару». Такая непавага да нацыянальных моваў і традыцый была заўсёды ўласцівая расійскім эмісарам, што накіроўваліся ў «нацыянальныя рэспублікі» як у правінцыі імперыі, каб выкараняць там «невуцтва», насаджаючы «асвету» з дапамогай «вялікай і магутнай» рускай мовы. Яркім доказам гэтага з'яўляецца і той факт, што многія выкладчыкі і кіраўнікі ЕГУ, якія дзесяцігоддзямі займаюцца сваёй справай, так і не знайшлі час вывучыць беларускую мову, хоць многія з іх здолелі вывучыць англійскую мову і нават выкладаюць на ёй, што для рускамоўных нашмат складаней.

Зыходзячы з гэтага, ЕГУ нельга назваць не толькі беларускім, але і еўрапейскім, бо Еўропе заўсёды была ўласцівая павага і беражлівае стаўленне да нацыянальных моваў і культур.

Аўтары заявы выказалі шчырую ўдзячнасць краінам Еўрасаюза і ЗША за дапамогу і падтрымку дэмакратычнай грамадскасці, якая жадае пераменаў у постсавецкіх краінах, у тым ліку і ў Беларусі, а таксама глыбокую зацікаўленасць у тым, каб гэтая дапамога выкарыстоўвалася эфектыўна і ішла на праекты, што прыносяць рэальную карысць для дасягнення агульных мэтаў. Наўрад ці можна назваць эфектыўнай навучальную ўстанову, якая працуе на імперскую ідэю пашырэння «рускага свету», навучаючы маладую беларускую эліту на рускай мове.

У заяве звяртаецца ўвага на тое, што праект ЕГУ толькі тады можна разглядаць як дапамогу Беларусі, калі на пасаду рэктара гэтай ВНУ будзе прызначаны чалавек, які ўсведамляе асаблівую місію стварэння першага еўрапейскага ўніверсітэта, дзе мовай выкладання будзе мова беларусаў — тытульнай нацыі краіны.

На думку сябраў РБІ, сярод кандыдатаў на пасаду рэктара ЕГУ ёсць асоба, якая адпавядае неабходным крытэрам. Гэта — вядомы беларускі медыявіст, аўтар канцэпцыі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, доктар гістарычных навук, прафесар, дзейны навукоўца і выкладчык Алесь Краўцэвіч, які працаваў першым прарэктарам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Аўтары заявы выказваюць кіраўнічай радзе ЕГУ падзяку за дапамогу і падтрымку беларусаў у іх імкненні да дэмакратычных пераменаў і еўрапейскай інтэграцыі, а таксама просяць уважліва паставіцца да меркавання сябраў РБІ і ўлічыць яго, прымаючы такое важнае і адказнае рашэнне, як прызначэнне новага рэктара ЕГУ.

# Мовы Шатландыі

## Ці выйгралі б скотс і гэльская ад незалежнасці?

Дзяніс ТУШЫНСКІ

**Незалежнасць, мова і рэферэндум — эмацыйна насычаныя словы для свядомых беларусаў, нават калі яны датычацца іншай краіны.**

Усакавіку 2012 года я прымаў удзел у эдынбургскай канферэнцыі, прысвечанай параўнальнаму аналізу беларускай і шатландскай моўных сітуацый. Мне падалося, што гаспадары не мелі пэўнага погляду на тое, якім чынам незалежнасць магла б адбіцца на моўнай палітыцы.

У Шатландыі, акрамя моваў эмігрантаў, распаўсюджаны наступныя мовы: англійская ці яе шатландскі варыянт, скотс, шатландская гэльская мова і брытанская жэставая мова.

### Моўная рэальнасць

На **гэльскай мове** да XV стагоддзя размаўляла большасць насельніцтва Шатландыі. Паступова яе арэал звузіўся да Хайлэнда (паўночна-заходняя Шатландыя) і заходніх астравоў. Апошні перапіс засведчыў, што ў той ці іншай ступені гэльскай валодае 87 000 чалавек (1,7%).

Закон аб гэльскай мове патрабуе ад дзяржаўных шатландскіх арганізацый выканання планаў па развіцці мовы. Ёсць гэламоўныя дзіцячыя садкі, школы, радыё і тэлебачанне.

**Скотс** — германская мова, адносна блізкая да англійскай. Гэта нашчадак паўночнага дыялекту англа-саксонскай мовы. Гэта мова распаўсюдзілася на поўдні і ўсходзе шатландскага каралеўства і замяніла гэльскую ў якасці дзяржаўнай. Але ў пачатку XVII стагоддзя была заключана асабістая вунія Шатландыі з Англіяй, і скотс пачаў занепадаць.

Брытанскі ўрад «прызнае і паважае скотс у якасці асобнай мовы і не лічыць выкарыстанне скотс прыкметай кепскага валодання англійскай мовай». Хаця даследаванне 2010 года паказала, што 64% апытаных хутчэй разглядаюць скотс як гаворку, а не як мову.

Для Шатландыі характэрныя пераходныя варыянты паміж скотс і англійскай, а таксама змяшэнне моваў у гаворцы пэўнага чалавека. Адна з крыніц апісвае найбольш распаўсюджаную гаворку Лоўлэнда (паўднёва-ўсходняя Шатландыя) як «хутчэй англійскую мову з вялікай колькасцю рысаў, што ўзыходзяць да скотс». Але вучоны і былы дарадца ўрада па скотс адзначае, што ў яго горадзе Абердзіне многія размаўляюць на некранутай чыстай скотс.

Паводле дадзеных перапісу 2011 года, у той ці іншай ступені валодлі скотс 37,3% насельніцтва. 93% адказалі, што дома размаўляюць толькі па-англійску, на скотс — 1%, па-гэльску — 0,5%.

Тэле- ці радыёканала на скотс няма, хаця ёсць асобныя праграмы. Як прадмет скотс у школе не вывучаецца, хаця настаўнікаў заахвочваюць паглыбляць веданне дзецьмі гэтай мовы.

### Моўная палітыка

Прааналізуем, як бы незалежнасць адбілася на моўнай палітыцы Шатландыі. У 2013 годзе ўрад апублікаваў дакумент «Будучыня Шатландыі. Твой гід па незалежнай Шатландыі». У ім апісаны перспектывы незалежнасці для розных сфераў жыцця, у тым ліку для моваў. Ёсць там і адказы на пытанні грамадзян.

Дакумент прызнаў вялікую ролю гэльскай і скотс для незалежнай Шатландыі. На пытанне аб будучыні нацыянальных моваў гучыць адказ, маўляў, урад прапануе не мяняць наяўныя статусы моваў Шатландыі. Хаця канстытуцыйная рада пасля атрымання незалежнасці магла б разгледзець іх статус у канстытуцыі.

Урад планаваў «працягнуць мацаваць статус і павялічваць колькасць носьбітаў гэльскай мовы праз забеспячэнне адукацыі на ўсіх узроўнях» (хаця пералічаны толькі пачатковая і сярэдняя адукацыя) і падтрымку тэлевяшчання.

Даецца нават абяцанне, што гэльская зойме цэнтральнае месца ў грамадскім жыцці Шатландыі. Як гэта зрабіць з настолькі мінарытарнай мовай, не тлумачыцца.

У адказ на пытанне, ці атрымае скотс пасля набыцця незалежнасці больш падтрымкі, урад адказвае, што далейшая распрацоўка моўнай палітыкі і развіццё ўжывання і статусу скотс будуць грунтавацца на звестках апошняга перапісу. Але перапіс паказаў, з аднаго боку, высокі працэнт валодання скотс, а з іншага — татальнае валоданне англійскай. Які ўзровень падтрымкі абраў бы ўрад у такой сітуацыі, невядома.

На маю просьбу апісаць палітыку ў дачыненні да скотс на выпадак незалежнасці, Джонатан Фер'е, спецыяліст ўрада па моўнай палітыцы, адзначыў, што ўрад абавязаўся ўзняць ролю і пашырыць выкарыстанне гэтай мовы.

### Ці трэба мова?

Працяг і пэўная інтэнсіфікацыя цяперашняй моўнай палітыкі ў дачыненні да гэльскай могуць урэшце прывесці да росту колькасці яе носьбітаў, бо за апошнія дзесяць гадоў назіралася мінімальнае падзенне гэтай колькасці з 1881 года. Але абяцанне пра ўмацаванне статусу моваў не выконвалася ўжо ў працэсе падрыхтоўкі рэферэндуму: бланкі былі толькі англамоўнымі. У адказ на патрабаванне зрабіць шматмоўны бланк, намесніца першага міністра Старджон заявіла, што англійскі тэкст тэставаўся на носьбітах гэльскай мовы, і яны яго цалкам зразумелі, таму патрэбы ў гэльскай версіі няма. Пратэсты былі праігнараваныя, а шырокая грамадскасць (акрамя гэламоўнай) засталася абыякавай.

Дарэчы, пра абыякавасць. Нядаўняе даследаванне паказала, што толькі 56% тых, хто верыць, што незалежнасць дадала б шатландцам гонару за сваю краіну, жадалі б, каб на гэльскай у будучыні размаўляла больш людзей, чым зараз. Сярод тых, хто лічыць сябе шатландцам, а не брытанцам, такіх 51%. Праўда, гэтае ж даследаванне засведчыла, што чым больш людзі схіляюцца да шатландскай ідэнтычнасці і ідэі незалежнасці, тым больш яны жадаюць, каб колькасць гэламоўных павялічылася.

Што да скотс, то ўрад падрыхтаваў рэзюме «Будучыні Шатландыі» на 15 мовах, у тым ліку і на гэльскай, — але не на скотс.

Пакуль няма даследаванняў, якія б паказалі дынаміку колькасці носьбітаў скотс і стаўлення да яе. Таму рана рабіць высновы пра ўплыў цяперашняй моўнай палітыкі на стан гэтай мовы. Але падаецца, што захаванне статус-кво недастатковае для росквіту скотс: трэба ўздымаць яе статус, развіваць адукацыю і медыі. Але ці трэба гэта шатландцам? Вынікі апытанняў неадназначныя: стаўленне да скотс агулам добрае, дзяцей варта заахвочваць яе выкарыстоўваць, пры гэтым больш паловы не жадае, каб скотс вывучаўся ў школе.

### Незалежнасць і мова

А што з англійскай мовай? «Будучыня Шатландыі» падкрэслівае, што ў выпадку незалежнасці еднасць шатландцаў з астатнімі брытанцамі засталася б непарушнай, у тым ліку дзякуючы «адной з імі мове, культуры і гісторыі». Урад даводзіць, як выгодна будзе і далей прымаць брытанскіх студэнтаў у шатландскіх універсітэтах, а яны прыедуць, бо «мова ў нас усіх агульная». Як адзначаюць аналітыкі, англійская мова робіць Шатландыю прывабнай на моўным рынку. На канферэнцыі адзін з прыхільнікаў адраджэння скотс сказаў, што яны рады быць таксама і часткай англамоўнага свету. Толькі ці ўдасца спалучыць адраджэнне скотс з выгодамі ад англамоўнасці?

Перадрэферэндумная кампанія пацвердзіла меркаванне аб невялікай ролі моўнай спецыфічнасці ў шатландскай нацыянальнай самасвядомасці і ў руху за незалежнасць. Моўнае пытанне не заняло заўважнага месца ў абмеркаваннях. Амаль ніхто з іх удзельнікаў не назваў сярод аргументаў за незалежнасць яе выгодаў для скотс і гэльскай. Тое ж і з кампаніяй прыхільнікаў брытанскага адзінства. Ды і самі скотс і гэльская ў кампаніі выкарыстоўваліся мала.

Прычынамі былі і нешматлікасць гэламоўных, і невысокі статус скотс у вачах часткі яе носьбітаў. Магчыма, што незалежнікі баяліся напужаць электарат перспектывай абавязковага вывучэння мінарытарных моваў. Аналітыкі адзначалі, што ці не ўсё, што можна рабіць у сферы развіцця моваў, дасягальна і ў складзе Вялікабрытаніі.

Да таго ж, у выпадку незалежнасці на скотс і на гэльскую больш не распаўсюджвалася б падтрымка, гарантаваная «Еўрапейскай хартыяй рэгіянальных моваў ці моваў меншасцяў», бо падпісвала яе не Шатландыя, а Вялікабрытанія. Незалежная ж Шатландыя не атрымала б аўтаматычнага сяброўства ў ЕС. І калі гэльскую абараняе яшчэ і адмысловы шатландскі закон, то скотс пазбавіўся б канкрэтнага статусу.

Нельга сказаць, што палітыкі зусім праігнаравалі моўную тэму. Напрыклад, прэм'ер шатландскага ўрада Алекс Салманд даў інтэрв'ю прадстаўніку Цэнтра мовы скотс, дзе прызнаўся ў любові да гэтай мовы і зазначыў важнасць яе падтрымкі.

Ці прайграе гэльская мова ад паразы незалежнікаў на рэферэндуме? Калі ва ўмовах саюзу цяперашні ўзровень падтрымкі мовы захаваецца, то хутчэй не.

### Не варта засмучацца

Што да скотс, то адсутнасць даследаванняў і агульны характар абяцанняў урада не дазваляюць даць адназначнага адказу. Прынамсі, першая рэакцыя на вынікі рэферэндуму Цэнтра мовы скотс была скрушаная: перспектывы развіцця вяшчання на скотс абмежаваныя.

Незацікаўленасць незалежнікаў моўным пытаннем і парушэнні моўных правоў напярэдадні рэферэндуму сведчаць на карысць таго, што ў незалежнай Шатландыі істотнага прарыву ў моўнай сферы не было б. Так што, з аднаго боку, іхным моваабаронцам не варта сумаваць, а з іншага — ім будзе не да суму.

Ці ёсць плюсы ад захавання саюзу для скотс і гэльскай? Калі паўнамоцтвы Эдынбурга ў сферы бюджэту павялічацца, і гэта прынясе выгоды, то паглядзім, колькі ад іх будзе скіравана на развіццё спрадвечных шатландскіх моваў.

Таксама невядома, наколькі задаволіць шатландцаў ступень аўтаноміі, прапанаваная Лонданам. Калі рух за незалежнасць ці пашырэнне аўтаноміі працягнецца, то яго прыхільнікі могуць нарэшце звярнуць увагу на занядбанае моўнае пытанне, шукаючы падтрымкі гэламоўных і свядомых носьбітаў скотс. Магчыма, што цікавасць да гэтых моваў у грамадстве ўзрасце кампенсаторна: не атрымалі незалежнасці — дык падкрэслім нашу моўную адметнасць.






Размеркаванне гэламоўных у Шатландыі (перапіс 2011 г.)






Размеркаванне скотс-моўных у Шатландыі (перапіс 2011 г.)

TV

## 26 СТУДЗЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.50** Камедыя «Ты - мне, я - табе» (СССР).
**13.40, 15.55** Меладрама «Андрэйка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Фантастычны баявік «Расамаха: несмяротны» (ЗША – Вялікабрытанія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Справа прынцыпу».
**22.15** «Лепшая прапанова». Мастацкі фільм.
**00.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** «Вялікі горад».
**14.35** «Зорны рынг».
**15.40** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** Фільм «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР, 1970 г.).
**01.10** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.15** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» Расія.
**13.05** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.30** «Comedy Баттл». Без межаў «. Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Фантастычная камедыя «Вядзьмарка» (ЗША).
**01.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабранаранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Дыя@блог P.S.».
**08.25** «Блакітны анёл». Музычная драма (Германія, 1930 г.).
**10.05** «Культпрасвет».
**10.40** «Інтэрвенцыя». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1968 г.).
**12.25** «Страсці па Уладзіміру». Камедыя (СССР, 1990 г.).
**14.20** «Камертон». Станіслаў Гаварухін.
**14.45** «Размаўляем па-беларуску».
**14.55** «Слуцкія паясы». Дакументальны фільм пра гісторыю ўзнікнення слуцкіх паясоў.
**15.25** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**15.55** «Свет прыроды». Ля дрэва дружбы трох народаў.
**16.20** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.50** «Дыя@блог P.S.».
**17.15** «Калошы шчасця». Фільм-казка (Чэхаславакія, Аўстрыя, Германія, 1986 г.).
**18.45** «Яно». Драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**23.00** «Я не паэта...» Песні Уладзіміра Мулявіна, выконвае Пётр Елфімаў.
**00.30** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Андрэй Плясанаў.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Фрыстайл. Чэмпіянат свету.
**10.30** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу.
**12.00** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Кліўленд».
**13.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**15.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «ХК Гомель» - «Юнацтва» (Мінск).
**17.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Мужчыны.
**18.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «БК Ніжні Ноўгарад». Прамая трансляцыя.
**20.40** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**21.10** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Кліўленд».
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**08.20** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чалы і Сяргей Балыкін.
**08.50** Невядомая Беларусь: «Амерыканка. All included», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**09.50** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**10.40** Дакументальная гадзіна: «Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**11.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**12.10** Кінаклуб: «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005 г., Балгарыя–Турцыя.
**14.10** ПраСвет.
**14.50** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**15.30** Мова нанова: Тэатр.
**15.50** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 1.
**16.30** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**17.20** «Час гонару», серыял.
**18.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.55** Асабісты капітал.
**22.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.50** Кінаклуб: «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005 г., Балгарыя–Турцыя.
**00.50** Студыя «Белсат».

## 27 СТУДЗЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5».
**16.35** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Адналюбы». Тэлесерыял.
**00.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.10** «Тыдзень спорту».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** Фільм «Сэрцаед» (Францыя - Манака, 2010 г.).
**15.45** «Ежа багоў».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Крутыя ствалы» (ЗША, 1997 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш.
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.05** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.40** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**12.25** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд» (ЗША).
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.50** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**17.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**19.55** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**23.30** Ікра.
**00.00** Хачу ў тэлевізар!
**00.05** Фантастычны баявік «Тэрмінатар-3: паўстанне машын» (ЗША - Германія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабранаранак.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.55** «Яно». Драма (СССР, 1989 г.).
**10.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.15** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Вакальны ансамбль «Камерата».
**12.05** «Размаўляем па-беларуску».
**12.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Андрэй Плясанаў.
**12.50** «Культурныя коды». Дакументальны фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**13.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Зіновія Бабія.
**13.45** «Джульбарс». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1935 г.).
**15.00** Мультфільм.
**15.25** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.55** «Навука колеру хакі». Дакументальны фільм.
**16.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 1-я серыя (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**17.30** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**18.00** Канцэрт сімфанічнага «IP аркестра» і пан-флейтыста Алега Мінакова.
**19.20** «Зімовая раніца». Ваенная драма (СССР, 1966 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 1-я серыя (СССР, 1979 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.45** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 2-я серыя (СССР, 1979 г.).
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Зіновія Бабія.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**10.20** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «БК Ніжні Ноўгарад».
**12.00** Хакей. КХЛ. «Медвешчак» (Заграб) - «Дынама» (Мінск).
**13.50** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**15.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Жанчыны.
**16.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу.
**18.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Мужчыны.
**19.25** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**20.50** Спорт-кадр.
**21.20** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**23.25** Еўрапейскі покерны тур.
**00.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.10** «Дом», серыял.
**12.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Карусь Каганец.
**12.50** Мова нанова: Тэатр.
**13.10** Студыя «Белсат».
**13.25** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**14.05** Студыя «Белсат».
**16.25** Асабісты капітал.
**16.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Суб'ектыў.
**19.00** Рэпартэр.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.40** «Надыдзе ноч», дак. фільм, 2014 г., Вялікабрытанія.
**23.55** Студыя «Белсат».

TV

## 28 СТУДЗЕНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніца, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35 Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**16.35** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Сваты-5».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Адналюбы». Тэлесерыял.
**00.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Мінск і мінчане».
**09.30** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** Фільм «Крутыя ствалы» (ЗША, 1997 г.).
**15.50** «Ежа багоў».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Герой яе рамана» (Аўстралія, 1999 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**12.45** Вышэй за дах.
**13.20** Кіпень.
**13.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**14.45** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**15.45** Рэпарцёр.
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.35 «Спортлато 5 з 36», «КЕНО».
**22.40** Прыгодніцкі фільм «Гісторыя рыцара» (ЗША).
**00.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 Беларусь

**07.10** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**07.55** Серыял «Робін з Шэрвуда». 2-я серыя. (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**08.50** «Зімовая раніца». Ваенная драма (СССР, 1966 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.40** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**12.55** «Белеет парус одинокий..» Дзіцячы прыгодніцкі фільм (СССР, 1937 г.).
**14.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.
**14.45** «Музеі Беларусі». Музей пошты.
**15.10** «Наперад у мінулае».
**15.35** «Культурныя коды». Дакументальны фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**16.05** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.35** Серыял «Робін з Шэрвуда». 2-я серыя. (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**17.30** «Дыя@блог». «Пра мову».
**17.55** «Салавей». Канцэрт Людмілы Лазарчык і Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І.Жыновіча.
**19.25** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма (СССР, 1980 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1982 г.).
**22.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.40** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 2-я серыя (СССР, 1982 г.).
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.

### 5 Беларусь

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.35** Баскетбол. НБА. «Голден Стэйт» - «Чыкага». Прамая трансляцыя.
**08.45** Спорт-кадр.
**09.15** Козел пра футбол.
**09.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Спрынт. Жанчыны.
**11.05** Баскетбол. НБА. «Голден Стэйт» - «Чыкага».
**12.55** Сноўборд. Чэмпіянат свету.
**15.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Спрынт. Мужчыны.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.00** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «ХК Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск). Прамая трансляцыя.
**21.15** Баскетбол. НБА. «Голден Стэйт» - «Чыкага».
**23.00** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск).
**00.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**02.20** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Два на два (тэледыскусія).
**10.50** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**11.10** «Ранча», серыял.
**11.55** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.05** Рэпартэр.
**13.30** Студыя «Белсат».
**15.50** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**16.40** «Ранча», серыял.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.10** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.35** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**23.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.40** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял.
**00.10** Студыя «Белсат».

## 29 СТУДЗЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніца, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10, 11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**16.35** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыйны серыял «Сваты-5».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Сёння ўвечары».
**16.15** «Сёння ўвечары». Працяг.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Адналюбы». Тэлесерыял.
**00.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.10** «Прыгоды дылетанта».
**09.45** «Гарачы лёд».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** Фільм «Герой яе рамана» (Аўстралія, 1999 г.).
**15.40** «Ежа багоў».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Мумія: прынц Егіпта» (ЗША - Вялікабрытанія - Люксембург, 1998 г.).
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.20** «Халасцякі». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Прыгодніцкі фільм «Гісторыя рыцара».
**13.10** «Сустрэча з...».
**13.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**14.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**15.45** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.35** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Галасы з мінулага». 155 год класіку сусветнай літаратуры Антону Паўлавічу Чэхаву.
**08.05** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 3-я серыя (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**09.00** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма (СССР, 1980 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.45** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Івана Шамякіна.
**13.25** «Сустрэчы ў Букваедзе». Дзіна Рубіна.
**13.50** «Залаты шлягер-2000». «Дунаеўскі Дунаеўскі». Музыка Ісаака і Максіма Дунаеўскіх.
**15.45** «Наперад у мінулае».
**16.15** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.45** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 3-я серыя (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**17.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.30** «Сіла веры».
**19.00** «Галасы з мінулага». 155 год класіку сусветнай літаратуры Антону Паўлавічу Чэхаву.
**19.05** «Дзядзя Ваня». Драма (СССР, 1970 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 1-я серыя (СССР, 1960 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.00** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 2-я серыя (СССР, 1960 г.).
**00.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Івана Шамякіна.
**00.45** «Галасы з мінулага». 155 год класіку сусветнай літаратуры Антону Паўлавічу Чэхаву.

### 5 Беларусь

**03.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд». Прамая трансляцыя.
**05.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**06.55** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «ХК Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск).
**09.40** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск).
**11.35** Гандбол. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**13.00** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд».
**14.50** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «БК Ніжні Ноўгарад».
**16.25** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**18.25** Авертайм.
**18.55** Футзала. Кубак Беларусі. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.25** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма. Прамая трансляцыя.
**23.45** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд».
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**11.40** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял.
**12.05** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**12.20** Студыя «Белсат».
**12.50** Асабісты капітал.
**13.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**13.20** Студыя «Белсат».
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.00** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.20** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**17.00** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 1.
**17.45** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял.
**18.10** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.45** Дакументальная гадзіна: «Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**23.45** Невядомая Беларусь: «Амерыканка. All included», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**00.35** Студыя «Белсат».

TV

## 30 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Крымінальная меладрама «Падсадны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.55** Дзень спорту.
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.

### ОНТ

**06.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Дрэнная матуля». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тры акорды».
**23.15** Вячэрні Мінск.
**00.20** «Омэн 3». Мастацкі фільм.
**02.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Добры дзень, доктар».
**09.35** «Гэта мой дом».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** Фільм «Мумія: прынц Егіпта» (ЗША - Вялікабрытанія - Люксембург, 1998 г.).
**16.05** «Дарагая передача».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Міс ніхто» (ЗША, 2010 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**00.15** «Вялікая гульня». Покер.
**01.00** «Клетка». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.10** Капейка ў капейку.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**12.40** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.15** Кіпень.
**13.35** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**15.40** Вось дык так!
**16.15** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**17.25** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.25** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**20.10** «Зразумець і абясшкодзіць».
**20.45** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**22.35** Рэпарцёр.
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Ты з якой планеты?» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Галасы з мінулага». «Героі Сяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.
**08.05** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 4-я серыя (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**08.55** «Дзядзя Ваня». Драма (СССР, 1970 г.).
**10.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**11.05** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыя (СССР, 1960 г.).
**13.45** «Сіла веры».
**14.10** «Галасы з мінулага». «Героі Свяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.
**14.20** «Аўтограф». Студыя цыркавога мастацтва «Арэна» з Мазыра.
**14.45** Мультфільмы.
**15.45** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**16.10** «Гвоздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 4-я серыя (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**17.35** «Аляксей Кортнеў, група «Несчастный случай».
**19.15** «Ныне прославися сын человеческий». Драма (СССР, 1990 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Бясклапотны яздок». Драма (ЗША, 1969 г.).
**22.40** «Камертон». Юрый Іваноў.
**23.10** «Галасы з мінулага». «Героі Свяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.35** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Чыкага». Прамая трансляцыя.
**08.50** Авертайм.
**09.25** Футзала. Кубак Беларусі. Фінал.
**11.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма.
**14.25** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Чыкага».
**16.20** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Аўтамабіліст» - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.20** Піт-стоп.
**19.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**20.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**22.35** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Мужчыны.
**00.40** Еўрапейскі покерны тур.
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.05** Дакументальная гадзіна: «Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**12.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.00** Два на два (тэледыскусія).
**13.30** Студыя «Белсат».
**15.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**17.15** Невядомая Беларусь: «Амерыканка. All included», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «Злодзеі ў законе: Жыццё атрымалася», дак. фільм, 2010 г., Ізраіль.
**00.00** «Дом», серыял.
**01.40** Студыя «Белсат».

## 31 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Існасць.
**07.10** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Кулінарная дыпламатыя.
**10.25** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**11.25** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** Беларусь LIFE.
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Трыумф. Героям спорту 2014». Дзённік.
**15.50** Прэм'ера на канале! Меладрама «Нездасдзяваная радасць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**22.00** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**00.00** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў у школу!».
**13.45** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм.
**14.20** «Здабытак рэспублікі».
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Масгаз». Тэлесерыял.
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Сёння ўвечары».
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life». «Сакрэт».

### СТВ

**06.30** «Студэнты-2». Серыял.
**08.10** Фільм «Міс ніхто» (ЗША, 2010 г.).
**09.50** «Чыстая праца».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Гэта мой дом».
**11.15** «Дарагая передача».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Спяваючыя гарады».
**13.45** «Ваенная таямніца».
**14.45** «Next-2». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Спяваючыя гарады».
**16.50** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Дзіўная справа».
**18.30** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Фільм «Каханне: інструкцыя па ўжыванні» (Італія, 2011 г.).
**22.30** «Зорны рынг».
**23.30** «Дакументальны праект».
**01.10** «Клетка». Серыял. Заключная серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Мастацкі фільм «Разумныя рэчы» (СССР).
**09.15** Толькі для дарослых.
**09.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.30** Беларуская кухня.
**11.05** Тэлебарометр.
**11.10** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд-2: глабальнае пацяпленне» (ЗША).
**12.40** Капейка ў капейку.
**13.15** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**14.25** Вось дык так!
**15.00** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**17.30** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**18.30** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.00** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Камедыйны баявік «Галівудскія копы» (ЗША).
**23.25** Рамантычная камедыя «Дзень сурка» (ЗША).
**01.05** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Ныне прославися сын человеческий». Драма (СССР, 1990 г.).
**09.30** «Камертон». Юрый Іваноў.
**09.55** «Дазвольце расказаць!» Спартсмен і акцёр Андрэй Свірыдаў.
**10.10** «Навагоднія вечары ў Маладзечне» Вакальна-інструментальны ансамбль «Чараўніцы».
**11.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.35** «Куды ён падзенецца!» Музычная камедыя (СССР, 1981 г.).
**13.00** «Золата Макены». Прыгодніцкі фільм (ЗША, 1969 г.).
**15.05** «Паэт і майстар. Натхненне ў скульптуры». Гісторыя стварэння першага манументальнага помніка А.С.Пушкіну ў Санкт-Пецярбурзе.
**15.30** «На любовь свое сердце настрою..» Песні Булата Акуджавы.
**17.15** «Дыя@блог P.S.».
**17.45** «Хаос». Меладрама (Італія-Францыя, 1984 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Чырвоны псалом». Гістарычная драма (Венгрыя, 1972 г.).
**22.35** «Міклаш Янча. Шчырыя прызнанні». Дакументальны фільм пра выдатнага венгерскага кінарэжысёра.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**03.35** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Таронта». Прамая трансляцыя.
**05.50** Піт-стоп.
**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**08.45** Хакей. КХЛ. «Аўтамабіліст» - «Дынама» (Мінск).
**10.35** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**12.05** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Таронта».
**13.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Чырвоныя Крылы». Прамая трансляцыя.
**19.45** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**20.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**22.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Лестэр».
**00.15** Еўрапейскі покерны тур.
**01.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Студыя «Белсат».
**10.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.20** «Дом», серыял.
**14.00** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял.
**14.50** МакраФон: «Belsat Fest», канцэрт.
**15.50** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**17.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.45** Беларусы ў Польшчы.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** «Час гонару», серыял.
**19.15** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**20.05** Мова нанова.
**20.20** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**21.45** Суботні сеанс: «Побач з раем», маст. фільм, 2002 г., Францыя–Іспанія–Канада.
**23.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.00** Студыя «Белсат».

TV

## 1 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.10** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.20** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія). Заключная серыя.
**11.20** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Давярай і правярай.
**17.20** Меладрама «Раман у лістах» (Расія).
**19.10** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**00.15** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія). Заключная серыя.

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.30** «Фазэнда».
**11.05** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.30** «Тэорыя змовы».
**12.25** «Азазель». Мастацкі фільм.
**12.25** «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная». Авіятары «.
**17.10** Угадай мелодыю.
**17.45** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Тэатр эстрады».
**23.05** «Жаданне». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.30** «Студэнты 2». Серыял.
**07.20** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.50** Фільм «Каханне: інструкцыя па ўжыванні» (Італія, 2011 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.45** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.05** «Next-2». Серыял. Заключныя серыі.
**15.45** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Што хавае хлусня» (ЗША, 2011 г.).
**22.25** «Пякельная кухня - 2».
**23.45** Фільм «Геній» (ЗША, 2009 г.).
**01.15** «Дакументальны праект».

### 2 Беларусь

**07.05** Камедыйны баявік «Галівудскія копы» (ЗША).
**09.00** Вышэй за дах.
**09.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.36** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.10** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд: эра дыназаўраў» (ЗША).
**12.50** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» (Расія). Заключныя серыі.
**14.40** Рамантычная камедыя «Дзень сурка» (ЗША).
**16.35** «Comedy Баттл». Без межаў «. Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**17.40** Тэлебарометр.
**18.20** Суперлато.
**19.10** Гандбол. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Фантастычны баявік «Канец свету» (ЗША).
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Ты з якой планеты?» (ЗША).
**01.10** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.

### 3 Беларусь

**08.00** «Хаос». Меладрама (Італія-Францыя, 1984 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Вольга Акуліч.
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.00** «Рэчавы доказ». Глобус Пятра Вялікага.
**13.25** «Рэчавы доказ». Шкляны жарт.
**13.50** «Міклаш Янча. Шчырыя прызнанні». Дакументальны фільм пра выдатнага венгерскага кінарэжысёра.
**14.45** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Дакументальны фільм пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
**15.10** «Загадкі дзеда Кандрата». Дакументальны фільм пра творчасць беларускага байкапісца, драматурга, сатырыка Кандрата Крапівы.
**15.35** «Славянскі базар - 2012». Бенефіс Льва Лешчанкі.
**17.15** «Казка пра цара Салтана». Казка (СССР, 1966 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**19.10** «Бесклапотны яздок». Драма (ЗША, 1969 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Зорнае спатканне». Юбілейны канцэрт заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгора Сарокі.
**22.45** «Культпрасвет».
**23.15** Якуб Колас. «Сымон-музыка». Тэлеспектакль.

### 5 Беларусь

**04.05** Баскетбол. НБА. «Мінесота» - «Кліўленд». Прамая трансляцыя.
**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Лестэр».
**08.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Чырвоныя Крылы».
**10.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстэр Сіці».
**12.25** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Пары. Прамая трансляцыя.
**15.10** Баскетбол. НБА. «Мінесота» - «Кліўленд».
**16.55** Хакей. КХЛ. «Ак Барс» (Казань) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Суёнсі». Прамая трансляцыя.
**20.55** Лёгкая атлетыка. Гран-пры. Масква.
**22.10** Баскетбол. НБА. «Нью-Ёрк» - «Лэйкерз». Прамая трансляцыя.
**00.20** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Паказальныя выступленні.
**02.25** PRO спорт. Навіны.

### Белсат TV

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**07.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.05** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.20** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.50** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.25** «Чароўнае дрэва», серыял.
**12.00** Мова нанова.
**12.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.35** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.25** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 2.
**14.10** «Ізгоі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**15.00** Невядомая Беларусь: «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**15.40** «Побач з раем», маст. фільм, 2002 г., Францыя–Іспанія–Канада.
**17.20** «Ранча», серыял.
**18.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**18.35** «Час гонару», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі», дак. фільм, 2012 г., Мексіка.
**21.25** Кінаклуб: «Жалезная дама», маст. фільм, 2011 г., ЗША.
**23.30** «Злодзеі ў законе: Жыццё атрымалася», дак. фільм, 2010 г., Ізраіль.
**01.05** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**01.50** «Надыдзе ноч», дак. фільм, 2014 г., Вялікабрытанія.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

Новы час
novychas.info
Для тых, хто прымае рашэнні!

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

# Хачу ў Зуброўку!

Алег НОВІКАЎ

**Усё прасунутае беларускае грамадства толькі і гаворыць пра намінанта на прэмію «Оскар», расійскі фільм «Левіяфан» (рэж. Андрэй Звягінцаў), які, на думку публікі, добра выяўляе прыроду пуцінскай карумпаванай і крывадушнай мадэлі. Між тым, значна больш патрыятычна было б падключыцца да піяру іншай стужкі, якая таксама прэтэндуе на галоўную прэмію амерыканскай кінаакадэміі.**

Гэта карціна Уэса Андэрсана «Гатэль «Гранд Будапешт» — камедыя, створаная па творах Стэфана Цвейга.

На першы погляд, фільм не мае ніякага дачынення да Беларусі. У цэнтры фільма падзеі ў гатэлі «Гранд Будапешт», што адбываюцца паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Мадам Д., замежная госця гатэля, сябруе з кансьержам Густавам і за сяброўства адпісвае яму каштоўную карціну «Хлопчык з яблыкам». Літаральна адразу пасля абвяшчэння пра падарунак Мадам Д. гіне ад рук невядомага забойцы. Яе сын Дзмітрый, нязгодны з завяшчаннем, спрабуе абвінаваціць Густава ў забойстве маці. Густава арыштоўваюць, і ён шукае дапамогі ў сябра, маладога калідорнага Мустафы Зеро.

Прыгоды Густава і Зеро вельмі спадабаліся аўдыторыі. Дастаткова сказаць, што фільм адхапіў шмат прызоў — ад «Залатога мядзведзя» да «Залатога глобуса». Аднак галоўная інтрыга наперадзе. Фільм мае дзевяць (!) намінацый на Оскара, у тым ліку ў катэгорыі «Лепшы фільм». Думаецца, што як мінімум шэраг галоўных прызоў на цырымоніі ўручэння Оскара яму гарантаваны.

Аднак тут важней не спіс былых і будучых рэгалій. Фантастычны поспех «Гатэль «Гранд Будапешт» прывёў да спробаў стрыгчы купоны на ўсім, што з ім неяк звязана. Ужо зараз як мінімум чатыры гатэлі Усходняй Еўропы намагаюцца давесці, што менавіта іх установа, сэрвіс або ўнутраная атмасфера натхніла Цвейга на стварэнне твораў пра гатэль «Гранд Будапешт».

Пакінем гэта спаборніцтва супрацоўнікам турагенцтваў. У фільме «Гатэль «Гранд Будапешт» ёсць тэма, якую нельга аспрэчваць. Краіна, дзе Мустафа і Густаў спрабуюць раскрыць загадку смерці мадам Д., называецца Рэспубліка Зуброўка. Пры гэтым самі аўтары стужкі прызнаюць (гэта можна, прынамсі, прачытаць на сайце той жа Wikipedia), што назваць так краіну ў фільме іх натхніла этыкетка гарэлкі «Зуброўка», што, у сваю чаргу, наўпрост звязаная з беларускай культурнай спадчынай.




**Зуброўка выраблялася на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з пачатку XVI стагоддзя, і да XVIII стагоддзя стала адным з улюбёных напояў шляхты і сялян. У 1926 годзе ў Брэст-Літоўску аднавілі выраб гэтага напою**

Як вядома з даведнікаў, «Зуброўка» — алкагольны напой (настойка) мацункам 40°... Настойваецца на траве Зуброўка духмяная (Hierochloe odorata (L.) Wahlb.), якая расце ў Белавежскай пушчы і з'яўляецца ежай для зуброў, адкуль і пайшла назва. Можа мець розныя адценні жоўтага колеру — ад светла-жоўтага да бурштынавага.

Зуброўка выраблялася на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з пачатку XVI стагоддзя, і да XVIII стагоддзя стала адным з улюбёных напояў шляхты і сялян. У 1926 годзе польская кампанія ў горадзе Брэст-Літоўскі вынайшла спосаб масавай вытворчасці гэтага напою, які потым запазычылі мноства кампаній па ўсім свеце. Цяпер «Зуброўка» вырабляецца ў Беларусі, Польшчы, Расіі, аднак яе радзімай, безумоўна, з'яўляецца горад над Бугам.

Сёння вакол слова «Зуброўка» ў сеціве разгарнуўся сапраўдны ажыятаж. Фанаты фільму «Гатэль «Гранд Будапешт» намагаюцца мадэляваць палітычныя працэсы, культурнае жыццё, трэнды ў віртуальнай Рэспубліцы Зуброўка. Нехта ўжо прыдумаў гімн ніколі не існаваўшай краіны. Ёсць нават спроба стварыць інтэрнэт-энцыклапедыю зуброўскай нацыі. Часопіс «National Geographic» правёў апытанне наконт таго, якое месца ў ва Усходняй Еўропе падобна на дэкарацыі падзей, што адбываюцца ў фільме.

Але наўрад ці Беларусь можа прэтэндаваць на тое, каб лічыцца правобразам Рэспублікі Зуброўка. З таго, што гучыць на экране, можна зразумець, што Рэспубліка Зуброўка — гэта нейкая абстрактная альпійская славянская ўсходнееўрапейская краіна, якая напрыканцы 1930-х стала аб'ектам экспансіі фашыстаў, а пасля вайны перайшла пад кантроль Саветаў. Пасля калапсу сацыялізму краіна перажывае цяжкую эканамічную трансфармацыю, якая таксама ставіць пад удар былы гасцінічны комплекс. Калісьці славуты гатэль, які не прыносіць прыбытку, чакае дэмантаж.

Біяграфія Цвейга, які нарадзіўся і доўгі час жыў у Аўстра-Венгрыі, яшчэ больш звужае кола пошукаў да Славакіі або Чэхіі. Напэўна, гэтыя краіны, якія паўсталі на базе былой Чэхаславакіі, лепш за ўсё пасуюць крытэрыям віртуальнай Рэспублікі Зуброўка.

Тым не менш было б проста не разумна не паспрабаваць узняць інтарэс да Беларусі за кошт фільму і назвы «Зуброўка». Цяжка казаць, якія тут могуць быць канкрэтныя піяр-крокі. Аднак тое, як упарта намагаюцца стаць часткай міфу пра фільм «Гатэль «Гранд Будапешт» шматлікія гатэлі і нават муніцыпалітэты, сведчыць, што кошт у гэтай гульні вельмі высокі. Напэўна, не менш, чым каштавала славутая карціна «Хлопчык з яблыкам».








## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Урад Беларусі ў канцы 2014 года ўвёў мараторый на рост коштаў на больш за 15 студзеня 2015-га. Але і пасля гэтай даты росту коштаў не назіраецца, акрамя падаражання аўтамабільнага паліва і медыкаментаў. Па меркаванні экспертаў, дырэктыўнае ўтрыманне коштаў пры істотнай дэвальвацыі беларускага рубля (каля 40 адсоткаў за паўтара месяца) можа прывесці да негатыўных наступстваў для беларускай эканомікі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Апынулася, што пакуль гандляры ваююць на мытнях, а ветэрынарна-санітарныя апазіцыянеры азвярэла шукаюць шпіёнаў у беларускім малацэ, сур'ёзныя людзі даволі паспяхова прасоўваюць сур'ёзныя міждзяржаўныя праекты. У першую чаргу, вайскоўцы. І 2015 год, па іх планах, павінен стаць калі і не ключавым, то вельмі значным у развіцці агульнага абароннага патэнцыялу дзвюх дзяржаў. Магчыма, кульмінацыяй стане пастаўка на ўзбраенне беларускага войска чатырох зенітна-ракетных комплексаў С–300. Рэальныя планы ваенна-палітычнага альянсу Расіі і Беларусі больш маштабныя і ўтойваюць у сабе нямала сюрпрызаў для нашых т.зв. «партнёраў». Каўбасныя паўстанні на чале з агентамі Россельгаснагляду рана ці позна будуць задушаны праваахоўнымі органамі. А агульныя геапалітычныя інтарэсы суседніх краін застануцца, як бы ні шалела на гэты конт наша пятая калона.

**«Noteru.com» ( Расія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка дзеля выгады будзе гатовы пайсці на любую палітыку, у тым ліку і на актыўнае выкарыстанне нацыянальнага пытання. Аляксандр Лукашэнка даўно выкарыстоўвае гуманітарную тэматыку для шантажу і выбіванні фінансавай дапамогі з РФ. Калі грошы канчаюцца, ён пачынае казаць пра падтрымку Украіны. У Крамлі разумеюць, што цяпер Беларусь — ужо не проста вечна залежны сусед, а важны міжнародны партнёр. Цяпер вага Беларусі нашмат вышэй, чым раней. Таму Маскве цяпер важна мець лаяльнасць Лукашэнкі. А Лукашэнка гэтым удала карыстаецца.

**«REGNUM» (Расія)**

Урадавая беларуская газета «Звязда» апублікавала (псеўда) гістарычны матэрыял пра польскага паэта і ўдзельніка антырасійскіх паўстанняў Адама Міцкевіча. Толькі названы ён там не палякам, а беларусам і літвінам. Турбуе тое, што інсінуацыі пра Міцкевіча-літвіна-беларуса публікуе праўладнае выданне. Гэта значыць, што ўсё адбываецца не без санкцыі Аляксандра Лукашэнкі.

**«Газета.ру» (Расія)**

У пуцінскага наступу могуць быць і іншыя тактычныя мэты. Няўдачы ва Украіне здольныя падштурхнуць Пуціна на агрэсію супраць іншых краін у мэтах кампенсацыі іміджавых страт ад непазбежнага правалу «наварасійскай» авантуры. Цалкам магчыма, што пасля Украіны наступнай мэтай Пуціна стане Беларусь. Думаю, што Расія даўно рыхтуе замену Лукашэнку і аншлюс гэтай краіны. Пуцін, вядома, жадаў бы ад Лукашэнкі пазбавіцца і рэалізаваць нарэшце ў поўнай меры даўнюю ідэю стварэння Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі пад сваім кіраўніцтвам. Прычым ён ведае, што Захад не будзе абараняць такую адыёзную постаць, як Лукашэнка.

**«Обозреватель» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Усім надакучылі партыі

Мінюст Расійскай Федэрацыі канстатуе каласальную абыякавасць грамадзян да партыйнага будаўніцтва. Нагадаем, што ў свой час, яшчэ будучы прэзідэнтам, Анатоль Мядзведзеў даў згоду на лібералізацыю рэгістрацыі партструктур. Цяпер для рэгістрацыі партыі патрэбна ўсяго 500 подпісаў, праўда, з 43 рэгіёнаў неабсяжнай краіны. Спачатку гэта выклікала сапраўдны бум. У 2012 годзе былі пададзеныя заяўкі на рэгістрацыю ад 200 аргкамітэтаў. Аднак цяпер усё змянілася. За снежань 2014 года не выдадзена ніводнай рэгістрацыі. Падобна, сярод расійскіх грамадзян жадаючых стварацъ якую-небудзь партыю ўжо амаль і не засталося — кажуць чыноўнікі. Другая праблема — партыі становяцца ўсё больш экзатычнымі. Напрыклад, атрымала рэгістрацыю «Партыя добрых спраў, абароны дзяцей, жанчын, волі, прыроды і пенсіянераў». У Мінюсце не хаваюць, што гэта можа быць прыкол. Між тым у спісе жадаючых зарэгістравацца застаюцца не менш арыгінальныя праекты — Партыя сухога закона і Метагалактычная грамадзянская канфедэрацыя Расіі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. Клоун Рональд — агент ЦРУ

Праўладныя СМІ Венесуэлы абвінавацілі мясцовую сетку рэстаранаў «McDonald's» у тым, што яны намагаюцца справакаваць антыўрадавыя настроі за кошт зменаў у сваім меню. На днях больш за сто працуючых у Венесуэле рэстаранаў «McDonald's» прыпынілі продаж бульбы фры. Замест гэтага кліентам прапануюць мясцовую смажаную рэпу — традыцыйную страву індзейцаў. Па словах дырэктарату, прычына — забастоўка докераў у ЗША, следствам чаго сталі збоі паставак бульбы. Аднак сацыялістычны ўрад падазрае, што да дэфіцыту бульбы фры прыклала руку ЦРУ. Як вядома, у краіне даўно маюць месцы праблемы з прадуктамі. Адсутнасць бульбы фры яшчэ больш падліла алея ў полымя. З іншага боку, у версію пра змову клоуна Рональда і ЦРУ мала хто верыць, паколькі «Burger King» — іншая амерыканская фірма і сталы канкурэнт McDonald's — скарыстаўся сітуацыяй і пачаў рэкламную кампанію. Яе лозунг — аматары бульбы фры могуць заўсёды атрымаць яе ў «Burger King».

**Паводле брытанскай прэсы**

### ПАРТУГАЛІЯ І ІСПАНІЯ. Іберыйцы — за аб'яднанне

Адначасова ў Іспаніі і ў Партугаліі адбыліся ўстаноўчыя зборы Іберыйскай партыі. Партыя выступае за аб'яднанне абедзвюх краін у адзіную дзяржаву. На думку аўтараў праекту, адзінства народаў Іберыйскай паўвыспы дазволіць як мінімум амартызаваць наступствы цяперашняга крызісу плюс узняць ролю Мадрыда і Лісабона ў еўраструктурах. Пры гэтым ініцыятары кажуць, што праект не значыць стварэнне новай іспанска-партугальскай нацыі. Партугальцы і іспанцы будуць шукаць шляхі ў будучыню разам. На цяперашні дзень Іберыйская партыя ўжо атрымала рэгістрацыю ў Іспаніі. У Партугаліі справы цяжэй. Паколькі, паводле мясцовага заканадаўства, для рэгістрацыі партыі патрэбна сем тысяч подпісаў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Замест «Паўднёвага патоку» газавыя сховішчы



Венгрыя ў пошуках альтэрнатывы газаправоду «Паўднёвы паток», будаўніцтва якога ў мінулым годзе было спынена Расіяй, прапанавала Маскве выкарыстоўваць свае газавыя сховішчы, паведаміў кіраўнік МЗС краіны Петэр Сіярта. Прадастаўленне газавых сховішчаў з'яўляецца для Венгрыі адным са спосабаў гарантаваць доступ да расійскага газу пасля адмены будаўніцтва газаправода «Паўднёвы паток». Цяпер, па словах Сіярта, улады краіны маюць намер актывізаваць перамовы з Турцыяй, Грэцыяй, Македоніяй і Сербіяй аб будаўніцтве новага газаправода ў Цэнтральную Еўропу. Акрамя таго, Венгрыя разглядае варыянты імпарту газу з Азербайджана ці Харватыі праз тэрмінал звадкаванага газу. У 2014 годзе «Газпрам» ужо выкарыстаў венгерскія сховішчы, запампаваўшы туды 700 мільёнаў кубаметраў газу. Пры гэтым улады Венгрыі падкрэсліваюць, што не збіраюцца прадаваць сховішчы Расіі.

**Паводле венгерскай прэсы**

# Інтэрнацыянал радыкальных будыстаў

Алег НОВІКАЎ

**На гарызонце паўстае новая пагроза — будысцкі фундаменталізм. Хаця сам тэрмін «будысцкі фундаменталізм», на першы погляд, падаецца нонсэнсам, калі ўзгадаць, што найбольш распаўсюджаным азначэннем паняцця «будызм» ёсць «самая міралюбівая і гарманічная рэлігія ў свеце».**



Ашын Вірату

Часткай дагматыкі будызму ёсць, напрыклад, славутая Ахімса — негвалтоўнасць і адсутнасць нянавісці — умова для перараджэння. Аднак адначасова некаторыя прыхільнікі нірваны, медытацыі і вегетарыянскай ежы дапускаюць ужыванне гвалту і гвалтоўных метадаў, у тым ліку ў імя перамогі справы Сідхартхі Гаутамы (Буда нарадзіўся з гэтым імем).

Напрыклад, у гісторыі Тыбету яшчэ ў 841 годзе будысцкія манахі арганізавалі забойства мясцовага правадыра за тое, што ён, на іх думку, здрадзіў рэлігіі. Дарэчы, што тычыцца тыбецкага будызму, Далай Лама — духоўны лідар тыбетцаў, адзін з цяперашніх сімвалаў пацыфізму, прыкладна да канца 1980-х рабіў стаўку на партызанскую барацьбу за вызваленне Тыбету ад Пекіну. І ніхто з тагачасных прыхільнікаў будызму за гэта яго асабліва не крытыкаваў. З іншага боку, што тут дзіўнага — у гісторыі было шмат дзяржаў, дзе афіцыйнай рэлігіяй быў будызм. А элементам кожнага дзяржаўнага апарату, як вядома, ёсць арганізаваная сістэма прымусу і гвалту.

Так ці інакш, цэнтральным пунктам апраўдання права на забойства для некаторых прыхільнікаў будызму ёсць стан душы на момант смерці. Экстрэмісты спасылаюцца на байку, паводле якой нейкі жаўнер спытаў у Буды, ці перародзіцца, калі яго заб'юць падчас бою. Буда яму сказаў, што ўсё залежыць ад таго, наколькі душа жаўнера ў момант смерці была ахоплена думкай пра забойства. Такім чынам, на першае месца высоўваецца ідэя пра ментальны стан чалавека падчас смерці. Таксама будысцкая традыцыя дазваляе праводзіць абарончыя войны. Нарэшце, у 1970-я гады ў Тайландзе на нейкім зборы лідараў сярод прыхільнікаў будызму было вырашана, што забойства камуністаў не парушае прынцыпы веры. Былі і іншыя спробы падвесці спадчыну будызму пад гвалт.

На дадзены момант найбольш часта будысцкі экстрэмізм праяўляўся на Шры-Ланцы. Галоўнай групоўкай мясцовых будысцкіх радыкалаў ёсць Партыя будысцкай сілы (BBB). У 2012 годзе пры BBB узніклі атрады самаабароны. Толькі за першы год свайго існавання яны арганізавалі каля 250 атак на ісламскія і хрысціянскі ўстановы, а таксама левыя арганізацыі. Свае акцыі баевікі BBB таксама аргументуюць тым, што абараняюць старажытную будысцкую культуру вострава ад культурных інтэрвенцый звонку.

**Бірманскія манахі былі заўважаныя як лідары хуліганскіх банд, якія, як шмат хто падазрае, былі арганізаваныя квазі-грамадзянскім урадам краіны**

Іншы эпіцэнтр будысцкага радыкалізму знаходзіцца ў Тайландзе. На мусульманскім поўдні краіны даўно дзейнічае сепаратысцкі рух. Яшчэ ў 1970-я гады свае нефармальныя вайсковыя фармаванні для барацьбы з мусульманскім сепаратызмам стварылі і паслядоўнікі Буды. Калі верыць амерыканскай прэсе, часцей за ўсё цэнтрамі для іх вайсковай падрыхтоўкі становяцца будысцкія манастыры.

Аднак найбольш моцная хваля будысцкага экстрэмізму чакаецца ў бліжэйшыя часы ў Бірме (М'янма). Пару гадоў таму мясцовыя вайскоўцы пагадзіліся перадаць уладу цывільнай адміністрацыі. Ключавым этапам трансфармацыі дзяржаўнага ладу маюць быць парламенцкія выбары, якія прызначаныя на кастрычнік. Вядучыя партыі — праўладныя «Саюз салідарнасці» і «Партыя развіцця» і апазіцыйная «Нацыянальная ліга за дэмакратыю», якой кіруе лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1991) легендарная асоба — Аўн Сан Су Чжы.

Фаварытам выбараў лічылася яшчэ нядаўна менавіта «Нацыянальная ліга за дэмакратыю», аднак, падаецца, хунта знайшла спосаб застацца пры ўладзе. Фонам дэмакратызацыі і выбарчай кампаніі стаў не рост грамадзянскага сумлення, а эскалацыя нянавісці да нацыянальных меншасцяў. Падчас мусульманскіх пагромаў забіваюць сотні чалавек, тысячы становяцца бежанцамі. Human Rights Watch адзначае, што мясцовая адміністрацыя была адным з арганізатараў пагромаў. Дарэчы, Аўн Сан Су Чжы адмовілася каментаваць або асудзіць пагромы.

У такой атмасферы на небасхіле мясцовай палітыкі з'явілася новая зорка. Гэта Ашын Вірату (Ashin Wirathu) — будысцкі манах, лідар руху 969. Ашын, які нарадзіўся ў 1969 годзе і паспеў пабываць у турме за супрацоў хунце, імкліва набірае папулярнасць. Старт росту яго папулярнасці даў праект дэпартацыі ўсіх мусульман з краіны, што справакавала хвалю пагромаў. Цяпер герой сюжэту патрабуе забараніць шлюбы паміж будыстамі і мусульманамі, а таксама забараніць мусульманам займаць адміністрацыйныя пасады.

На першы погляд, лозунгі руху 969 падаюцца далёкай азіяцкай экзотыкай, аднак амерыканскі часопіс «Time» бачыць у гэтым адзнакі новай вялікай праблемы: «За мінулы год у Бірме, дзе дзясяткі, калі не сотні чалавек (у большасці будысты), былі забітыя ў камунальных сутыкненнях з мусульманамі. Бірманскія манахі былі заўважаныя як лідары хуліганскіх банд, якія, як шмат хто падазрае, былі арганізаваныя квазі-грамадзянскім урадам краіны. У Шры-Ланцы, дзе пры ўладзе будысты-кансерватары, нацыяналістычныя групоўкі беспакарана рабуюць мусульман і хрысціян, заклікаючы перасяліць усіх мусульман у рэзервацыю. Між тым, у глыбіні Тайланду манахі разам з тайскай арміяй змагаюцца з мусульманскімі паўстанцамі. Мы назіраем новую цесную сувязь дзяржавы і царквы, што патэнцыйна робіць гэты рэгіён вельмі небяспечным».

Між тым, у верасні мінулага года ў Каломба (фактычная сталіца Шры-Ланкі) адбылася сумесная сустрэча лідараў руху 969 і мясцовай BBB. Удзельнікі сустрэчы вырашылі стварыць нешта накшталт інтэрнацыяналу радыкальных будыстаў.

# Мода на зялёнае

Алег НОВІКАЎ




**За некалькі месяцаў да парламенцкіх выбараў англічан ахапіла мода запісвацца ў актывісты Партыі зялёных Англіі і Уэльса (ПЗАУ).**

Статыстыка сапраўды зачароўвае. Колькасць сяброў Партыі зялёных за два гады ўзнялася з 11 да 44 тысяч чальцоў. Кожны чацвёрты малады чалавек у краіне будзе галасаваць на парламенцкіх выбарах 6 мая за «Зялёных». Рэйтынг партыі пераадолеў планку ў 11 працэнтаў (плюс пяць пунктаў за год і плюс тры за апошнія два месяцы). Чым выклікана такое «пазеляненне» Вялікабрытаніі, і як яно паўплывае на профіль краіны?

Перш за ўсё, кароткая інфармацыя пра саму Партыю зялёных Англіі і Уэльса. Яна існавала з 1973 года (у 1975-м атрымала назву «Экалагічная партыя»). Але ў 1990-м ад яе адкалоліся Шатландская партыя зялёных і Зялёная партыя паўночнай Ірландыі. Так што можна лічыць, што свае існаванне ПЗАУ пачала толькі 14 з лішкам гадоў таму. І ў прынцыпе, яна някепска развівалася для маладой структуры (напрыклад, у Лонданскай гарадской асамблеі, дзе засядаюць 25 дэпутатаў, эколагі маюць зараз 2 прадстаўнікі). Партыі таксама ўдалося атрымаць адно месца ў брытанскім парламенце.

Аднак сапраўдны прарыў Зялёных пачаўся з прыходам у кіраўніцтва ў 2012 годзе Наталі Бенет (Natalie Bennett). Нягледзячы на тое, што Бенет (1966 г.н.) нарадзілася і вучылася ў Аўстраліі, пасля пераезду ў Брытанію ў 1999-м, яна зрабіла хуткую кар'еру журналіста ў мясцовых СМІ. Адначасова яна спрабавала сябе ў мясцовай палітыцы як актывіст «Зялёных» і з часам дарасла да партыйнага лідара. З новым лідарам партыя за два гады выйшла на чацвёртае месца ў рэйтынгу, пакінуўшы пасля сябе лібералаў — партыю-ветэрана на брытанскай палітычнай сцэне.

> Сапраўдны прарыў «Зялёных» пачаўся з прыходам у кіраўніцтва ў 2012 годзе Наталі Бенет

Магчыма, сакрэт росту інтарэсу да эколагаў у Англіі тлумачыцца не персанальнымі якасцямі Наталі, а духам эпохі. Настроі электарату на выбарах 2015 года сярод іншага фармуюць два новых чынніка. Па-першае, гэта недавер да партый мейнстрыму (за час крызісу, што пачаўся ў 2008 годзе, лейбарысты і кансерватары былі пры ўладзе і давялі, што перамагчы негатыўны трэнд не здольныя, і самае галоўнае — асаблівай розніцы ў іх падыходах да вырашэння эканамічных праблем няма). Як следства, мы сталі сведкамі калапсу даверу да абедзвюх фармацый. Зараз гэтым партыям сімпатызуюць 60–65 працэнтаў брытанскага электарату.

Другі чыннік — фармаванне палітычных сімпатый і запытаў пад уплывам новых тэхналогій камунікацыі. У сацыяльных сетках ідзе аўтаномная ад палітычнага істэблішменту і старых медыя палеміка. Дзякуючы адсутнасці фільтраў, новым палітычным актарам прасцей дагрукацца да электарату. Гэтым шмат у чым і скарысталіся эколагі.

Першай праявай эрозіі старой брытанскай двухпартыйнай сістэмы стаў узлёт Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP) — еўрафобскай структуры, чый стыль чымсьці нагадвае эпатажнасць расійскай партыі Жырыноўскага. Гульня на мяжы дазволенага прыцягвае да сябе пратэстны правы электарат. Левым аналагам UKIP, на думку экспертаў, сталі «Зялёныя». Расчараваны ў лейбарыстах левы выбаршчык мяркуе, што «Зялёныя» здольныя на больш радыкальныя рэформы.

Праграма «Зялёных», сапраўды, больш радыкальная ў сацыяльных лозунгах, чым прапановы лейбарыстаў. Напрыклад, «Зялёныя» лічаць, што мясцовае самакіраванне, а не цэнтральны ўрад павінен вырашаць лёс публічных службаў на месцы. Плюсаў на фоне лейбарыстаў, якія падтрымалі вайну ў Іраку, ім дадае выразная антываенная пазіцыя. У астатнім гэта хрэстаматыйная праграма еўразялёных — талерантнасць да меншасцяў, развіццё зялёнай эканомікі, абарона правоў жывёл, новая палітыка адносна лёгкіх наркотыкаў, прапаганда экалагічнага стылю спажывання і г.д.

Выданне «Independent» цытуе аднаго з перабежчыкаў ад лейбарыстаў да зялёных: «Трыццаць гадоў я быў сябрам лейбарыстаў, аднак на мінулым тыдні я паклаў партбілет на стол і далучыўся да «Зялёных». Я стаў лейбарыстам у часы Тэтчэр, калі яна атакавала мадэль сацыяльнай дзяржавы. Хаця ў мяне былі сумневы, я ведаў, што гэта партыя працоўнага чалавека. Лейбарысты ў часы Тоні Блэра здрадзілі сабе. Я галасаваў за Эда Мілібэнда (цяперашні старшыня лейбарыстаў) у 2010-м. Ён падаваўся мяне палітыкам, які ачысціць партыю ад спадчыны Блэра. Аднак гэтага не адбылося. Я зразумеў, што ўся цяперашняя генерацыя лейбарысцкіх лідараў склалася пад пратэкцыяй Тоні Блэра. «Зялёныя» — вось рэальны голас левых за палітычную альтэрнатыву. Гэта арганізацыя з дэмакратычнай структурай і радыкальнай праграмай. Тут галоўную ролю гуляюць жанчыны, што робіць партыю вельмі свежай. Я ганаруся, што магу дапамагчы «Зялёным» стаць партыяй, якая выказвае волю падманутых англічан».

Праўда, не ўсё ў «Зялёных» так добра. Асноўная перашкода на іх шляху ў Вестмінстэр — мажарытарная сістэма выбараў. Практыка паказвае, што вельмі часта, маючы прыстойны рэйтынг у цэлым па краіне, новай палітсіле цяжка перамагчы ў канкрэтнай акрузе, дзе старыя партыі даўно напрацавалі выбарчыя тэхналогіі. «Зялёныя», па разліках экспертаў, будуць здольныя ўсур'ёз змагацца толькі на 12–15 акругах.

Акрамя таго, шматлікія сур'ёзныя медыя асцярожна ставяцца да новых лейблаў на палітычным рынку. Яны ахвотней даюць эфір палітыкам ад салідных партыйных фармацый. Напрыклад, адзін з вядомых брытанскіх фондаў, які арганізуе ўвесну выбарчыя дэбаты паміж лідарамі, вырашыў не запрашаць на іх Наталі Бенет. Не жадаюць часта размаўляць з неафітамі і палітыкі першай лігі. Так, прэм'ер Дэвід Кэмеран заявіў, што адмовіцца ад удзелу ў дэбатах з апанентамі ў тым выпадку, калі сярод іх пабачыць прадстаўніка «Зялёных».

Усе гэтыя акалічнасці пакідаюць пытанні наконт будучыні «Зялёных» і цяперашняй моды на зялёныя фарбы. Праўда, усе партыі Вялікабрытаніі знаходзяцца ў аналагічнай сітуацыі. Як піша выданне «Guardian», выбары 6 мая 2015 года будуць самыя непрадказальныя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мішэль Бачалет



Прэзідэнт Чылі ўсё ж дабілася, каб сенат падтрымаў яе праект аб рэформе выбарчага кодэксу ў краіне. Змена правілаў выбараў была адным з галоўных абяцанняў Бачалет падчас выбарчай кампаніі. Справа ў тым, што ў Чылі дасюль выбіралі па правілах, якія прыдумалі ў часы дыктатуры Аўгуста Пінацэта, па так званай біпалярнай сістэме. Гэта садзейнічала таму, што партыі стварылі шырокія кааліцыі, паколькі толькі такія вялікія блокі маглі атрымаць адзін з двух мандатаў ад акругі. У выніку радыкальныя праціўнікі дыктатуры, і ў тым ліку левыя партыі, вымушаны былі ісці на кампрамісы з умеранымі партыямі. Цяпер колькасць выбарчых акругаў у краіне скароціцца, а колькасць дэпутатаў павялічыцца. Самае галоўнае, што ў парламент змогуць праходзіць не толькі пераможцы, аднак і кандыдаты, якія прыйшлі другімі, трэцімі і чацвёртымі. За кошт паправак на карысць малых грамадзянскіх ініцыятыў, аўтары законапраекту намагаюцца даць новы штуршок палітычнаму працэсу. Гэтая ўжо другая буйная рэформы прэзідэнта-сацыяліста, якая паступова нішчыць спадчыну Пінацэта. Прыкладна месяц таму парламент аднавіў у Чылі бясплатную вышэйшую адукацыю, якая ў свой час была скасавана дыктатурай.

### Іслам Карымаў



Прэзідэнт Узбекістана ўсё ж заявіў пра намер зноў балатавацца на пасаду ўзбекскага гаранта. Навіна шмат каго ўразіла. Раней у кулуарах узбекскай улады хадзілі чуткі, што з-за саліднага ўзросту (77 гадоў), Карымаў знойдзе сабе пераемніка, называліся нават канкрэтныя прозвішчы. Аднак у выніку Карымаў не рызыкнуў аддаваць уладу. 15 студзеня яго кандыдатура была зноў высунута Ліберальна-дэмакратычнай партыяй. Узбекскія СМІ паведамілі, што «гэта прапанова была аднагалосна падтрымана ўсімі ўдзельнікамі пасяджэння». Гэта навіна стала адзінай, і, хутчэй за ўсё, апошняй нечаканасцю выбарчай кампаніі. Паводле закона, вылучэнне кандыдатаў павінна пачацца за 65 і завяршыцца за 45 дзён да выбараў, прызначаных на 29 сакавіка (гэта значыць у перыяд з 24 студзеня па 13 лютага). Чаму пра балаціроўку Карымава абвясцілі раней, не зразумела. На гэтым, падаецца, любыя інтрыгі наконт выбараў закончылася. Зыходзячы з назіранняў за папярэднімі выбарамі, можна прадказаць, што па афіцыйных дадзеных, за кандыдатуру Іслама Карымава прагаласуе 88–92 працэнты выбарцаў.

### Марын Ле Пэн



Лідар Нацыянальнага фронту Францыі пакуль што самы папулярны кандыдат на будучых выбарах прэзідэнта. Марын шакавала грамадскасць, калі 20 студзеня ў інтэрв'ю выданню «Le Mobde» заявіла, што падтрымлівае левую кааліцыю «Syriza» на парламенцкіх выбарах, якія пройдуць у Грэцыі 25 студзеня. «Syriza», вядомая сваімі антыкапіталістычнымі маніфестамі, мае шанс па выніках выбараў сфармаваць новы грэчаскі ўрад. На думку мадам Ле Пэн, няма ніякай супярэчнасці ў тым, што яна — правы палітык, перажывае за левую партыю, паколькі ў дадзеным выпадку гутарка пра агульную барацьбу еўрапейскіх нацый супраць таталітарызму Еўрасаюзу і яго фінансавага рэгулявання. Адзінае, што не падабаецца Марын, прапановы «Syriza» наконт лібералізацыі міграцыйнага заканадаўства ў Грэцыі. Так ці інакш, заявы лідара Нацыянальнага Фронту сталі сапраўдным землятрусам. Левыя партыі Францыі дружна асудзілі іх. На іх думку, Марын намагаецца дыскрэдытаваць грэчаскіх левых. Іншыя кажуць, што палітык загадзя шукае падтрымку ў левага электарату Францыі. Усё ідзе да таго, што на наступных прэзідэнцкіх выбарах у Францыі ў другі тур выйдзе Марын Ле Пэн і прадстаўнік галістаў. Пры такім раскладзе перамога будзе залежыць ад таго, за каго прагаласуе левы выбаршчык.

# Крэўскае мора Камінскага

Сяргей ЧЫГРЫН

**У Крэве на Смаргоншчыне жыве зацікаўлены і ўлюбёны ў свой родны край чалавек. Завуць яго Аляксандр Камінскі. 21 студзеня гэтаму выдатнаму краязнаўцу і гісторыку споўнілася 50 гадоў. Напярэдадні юбілею мы гутарылі пра ягоныя краязнаўчыя здабыткі, і наогул пра жыццё.**



Аляксандр Камінскі

— Нарадзіўся я і жыву ў Крэве. Я з тых раслін, якія вельмі хваравіта пераносяць перасадку ў іншае месца. Такая нелюбоў да перамены месцаў дасталася, відаць, ад бацькоў, якім нават нарадзіцца давялося далёка ад Бацькаўшчыны: маці з'явілася на свет у Амерыцы ў сям'і беларускіх эмігрантаў, а бацька — у Расіі, як ён сам казаў: «Мікалаеўскай вайной у бежанцах». Я ж свае пяць гадоў вучобы ў Мінскім інстытуце замежных моваў і тэрмін вайсковай службы ператрываў толькі таму, што ведаў — гэта часова. Трохгадовую працу ў мілейкаўскай базавай школе на Смаргоншчыне не лічу — гэта ўжо родная Крэўшчына. Але, калі знайшлося месца ў самой крэўскай школе — перайшоў не раздумваючы. Працаваў настаўнікам французскай мовы і адначасова ўзяў пад апеку школьны музей, ладзіў вандроўкі. Зараз настаўніцкую працу па шэрагу прычын пакінуў, працую качагарам у дзіцячым садку. А краязнаўства — гэта назаўсёды!

***— Ты даследуеш усё, што звязана з Крэвам і Крэўскім замкам. Чым адметны гэты замак?***

— Мяне больш цікавяць малавядомыя старонкі гісторыі нашага мястэчка і ваколіц. Гэтыя старонкі можа не такія значныя, але, каб не было замка і Крэўскай уніі, менавіта яны з'яўляліся б зместам гісторыі нашага краю. Праўда, апошнім часам я ўсё больш і больш пачаў звяртацца і да тэмы замка. Аказваецца, у ёй ёсць яшчэ што асвятляць. Нядаўна завяршыў працу над даследаваннем «Крэўскі замак у апісаннях і выявах». Праўда, пакуль яшчэ не ведаю, дзе можна было б гэта надрукаваць. У Літве яшчэ, па-мойму, з савецкіх часоў існуе спецыялізаваны часопіс «Lietuvos pilys» («Літоўскія замкі»), у нас жа пра падобнае можна толькі марыць. Дарэчы, да напісання свайго даследавання мяне падштурхнула праца Відмантаса Янкаўскаса «Іканаграфія Крэўскага замка: паміж рамантызмам і дакументальнасцю», якая змешчана ў тым часопісе, і пра якую мала што ведаюць нашы спецыялісты. Я ж свае асабістыя знаходкі пра замак, свае думкі пра яго выкладаю час ад часу ў блогу «Крэўскае мора». Збіраюся рабіць гэта і надалей. Так што, каму цікава — сардэчна запрашаю на свой сайт www.kreuski.livejournal.com!

***— А ці магчыма сёння аднавіць Крэўскі замак?***

— Апошнім часам можна знайсці мноства варыянтаў рэканструкцыі (ці, інакш кажучы, аднаўленага першапачатковага выгляду) Крэўскага замка. Іх столькі, і яны такія розныя! Адсутнасць першапачатковых чарцяжоў дае волю фантазіі. А гэта можа прывесці да таго, што адноўлены калі-небудзь замак, сапраўды, набудзе хоць і падагнаныя пад Сярэднявечча, але нейкія чужародныя рысы. Многія прытрымліваліся і прытрымліваюцца думкі, што яго не трэба аднаўляць поўнасцю, а толькі закансерваваць у тым выглядзе, у якім ён дайшоў да нашага часу. Гэта захавала б нейкім чынам і памяць пра падзеі, якія адбываліся навокал на працягу стагоддзяў. А кансервацыя прадухіліла б далейшае разбурэнне замка. Па-мойму, гэта быў бы найлепшы, прычым менш затратны, варыянт. Калі ўсё ж будзе рашэнне аднавіць Крэўскі замак, то тут спяшацца не варта. Каб адрадзіць разбуранае, трэба ведаць з чаго ўсё пачыналася і які выгляд яно мела да разбурэння. Для гэтага неабходна вывучыць як мага болей дакументаў з апісаннем аб'екта, перабраць усе яго планы і чарцяжы, малюнкі і фотавыявы. Свой сціплы ўклад у гэта раблю і я.

***— Ці праводзяцца ў Крэве якія-небудзь гісторыка-краязнаўчыя і літаратурныя сустрэчы, фестывалі?***

— Пахваліцца няма чым. Не сказаць, што мы зусім убаку ад цывілізацыі. Добрую справу робяць удзельнікі штогадовых летнікаў — студэнты сталічных навучальных устаноў, якія не толькі праводзяць тут пэўную працу па вывучэнні і захаванні помнікаў мінуўшчыны, але і ладзяць часам даволі цікавыя фестывалі, экскурсіі, выставы. Да нядаўняга часу літоўцы, якія пражываюць у Беларусі, амаль штогод праводзілі ў Крэве святы, прымеркаваныя да дня каранацыі Міндоўга. Было прыемна, што да іх правядзення далучаліся і мясцовыя творчыя калектывы. Праз нейкі час літоўцы пакрысе адышлі ад гэтай справы, свае ж культработнікі хоць і працягваюць традыцыю, але знікла тая разынка, якая б прыдавала фестывалю сваю адметнасць і каларыт. У мінулым годзе ў жніўні ў Крэве, напрыклад, адбыўся фестываль «Крэўская кераміка». Свята сапраўды атрымалася прыгожым і арыгінальным. Але ж згадзіцеся: адно такое свята на год — гэта вельмі мала.

***— А літаратурная імпрэза «Дрэва паэзіі», прысвечаная Уладзіміру Някляеву, які дзіцячыя гады правёў у Крэве?***

— Так, з больш камерных падзей культурнага жыцця ў Крэве можна назваць адкрыццё некалькі гадоў таму тут, на радзіме Уладзіміра Някляева, Дрэва паэзіі, разнастайныя пленэры для мастакоў і фатографаў. На жаль, няма ў Крэве (ды і ў Смаргонскім раёне наогул) таго асяродку (клуба, музея, выдання і т. п.), які збіраў бы вакол сябе краязнаўцаў, гісторыкаў, літаратараў, наогул творчых людзей, дзе нараджаліся б і ажыццяўляліся б ідэі, дзе можна было б вольна абмяркоўваць свае знаходкі, прыцягваць да справы іншых зацікаўленых людзей. Нешта падобнае, нібыта, зараджаецца ў Залессі вакол аднаўленай сядзібы Агінскага, але я баюся, што і там усё хутка абрасце казёншчынай і фармалізмам.

***— Калі ўжо з'явіцца твая кніга пра Крэва?***

— Тут існуе некалькі праблем. Дзе-небудзь штосьці надрукаваць наогул няпроста. У той жа раённай газеце матэрыялы могуць праляжаць у стале гадамі, хоць менавіта ёй артыкулы па краязнаўству найбольш падыходзяць. Вось неяк патэлефанавалі з «Гродзенскай праўды», папрасілі дазволу выкарыстаць у сваёй публікацыі адзін з матэрыялаў з майго блогу і пачалі выпытваць пра іншую сенсацыйную інфармацыю, якой я валодаю. «Калі ласка, друкуйце, — кажу. — А наконт матэрыялаў, то магу прапанаваць для газеты свае асабістыя артыкулы». З адказу я зразумеў, што не варта туды і сунуцца.

***— Але ж ты шмат друкуешся, я ж чытаю...***

— Пішу, і апублікаваць тое-сёе ўдаецца. Мае матэрыялы прымаюць час ад часу «Куфэрак Віленшчыны», «Беларускі гістарычны часопіс», «ARCHE» і іншыя выданні. Рэдактар «Куфэрка» ў Маладзечне Міхась Казлоўскі выдаў некалі і маю кніжку «Пад хвалямі Крэўскага мора». Сам час ад часу займаюся «самвыдатам», больш для сяброў і знаёмых. А выдаць нешта салiднае — не хапае сродкаў, іх недзе трэба знайсці.

Калі выдаеш кнігу падобнага кшталту, ёсць і іншая праблема: кніга ўжо выдадзена, а ты трапляеш на нейкую новую інфармацыю, якая вельмі добра дапоўніла б тое, што ўжо надрукавана. А часам нават знаходзіш нейкае абвяржэнне таму, што пісаў раней. Але ж не будзеш раз за разам кнігу перавыдаваць, каб ліквідаваць тыя хібы. Урэшце я прыйшоў да высновы, што найлепшы спосаб хутка і без затрат данесці інфармацыю да чытача, а потым без цяжкасцей уносіць дапаўненні альбо абвяржэнні, — гэта стварыць свой краязнаўчы блог.

***— Што цікавае знойдзена асабіста табой пра Крэва за апошнія, напрыклад, пяць гадоў?***

— Для мяне асабіста цікава ўсё, інакш я гэтым не займаўся б. Але ёсць некалькі маіх меркаванняў, знаходак і прац, якія зацікавілі нават вучоных. Навуковец Янка Трацяк з Гродна нават параіў мне напісаць і абараніць навуковую дысертацыю па тэме мясцовай гаворкі. Гісторык Алег Дзярновіч палічыў вартым увагі маё меркаванне аб часе будаўніцтва Крэўскага замка (дагэтуль сярод спецыялістаў пытанне застаецца нявырашаным). Яўген Уласавец і іншыя зацікавіліся маёй версіяй пра першапачатковае размяшчэнне касцёла ў Крэве. Усе падрабязнасці па гэтых пытаннях не цяжка адшукаць у маім блогу.

Можна было б расказаць і пра полтэргейст, які назіраўся ў Крэве ў 1804 годзе, і пра шматлікія скарбы, якія тут былі знойдзены альбо засталіся нераскрытымі, і пра падземны храм часоў Першай сусветнай вайны недзе пад Крэвам. Але нам для гэтага адной гутаркі не хопіць.

***— Табе хто-небудзь дапамагае ў пошуках звестак пра Крэва?***

— Гісторыяй цікавяцца многія, але гэта, у асноўным, толькі «карыстальнікі». Так што прыходзіцца працаваць у адзіночку. Праўда, часам нейкія ідэі падкідае мой сябра, найлепшы спецыяліст па гісторыі Смаргоншчыны і Ашмяншчыны Уладзімір Прыхач, які жыве ў Смаргоні. Ён жа мне першаму паведамляе пра свае асабістыя знаходкі, звязаныя з Крэвам. Супрацоўніцтва з тым жа настаўнікам гісторыі і цяперашнім загадчыкам школьнага музея ў Крэве заключаецца толькі ў тым, што ён рэгулярна патрабуе ад мяне інфармацыю для шматлікіх, часам непатрэбных, мерапрыемстваў, загад аб правядзенні якіх зыходзіць зверху. Радуе, што адзін з маіх былых вучняў, які пасля вучобы зноў вярнуўся ў роднае мястэчка, зрабіўся заўзятым калекцыянерам, апошнюю капейчыну гатоў патраціць на набыццё на аўкцыёнах рэдкіх рэчаў і дакументаў, звязаных з Крэвам. З ім ёсць пра што пагаварыць, з ім мы абмяркоўваем новыя знаходкі, планавалі нават сумесна арганізаваць у Крэве выставу, прысвечаную Першай сусветнай вайне. Але, сутыкнуўшыся з пэўнымі цяжкасцямі, гэтую ідэю пакуль адклалі. Дзякуй Богу таксама, што ёсць яшчэ ў Крэве сталыя людзі, якія цікавяцца тым, чым я займаюся, дзеляцца ўспамінамі, падштурхоўваюць на новыя пошукі і адкрыцці.



Від на галоўную вежу Крэўскага замка з боку дзядзінца. Фота Т. Ходзькі, 1905 г.




Аляксандр Камінскі і Уладзімір Някляеў каля Крэўскай школы

# Гісторыя аднаго брэнда

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Ля Заслаўя знаходзіцца вёска Шапавалы. У пачатку 1930-х тут была пабудавана стражніца польскага Корпуса аховы памежжа. Будынак быў з цэглы, а падлогу выклалі кафляй вядомай фірмы «Дзевульскі і Ланге».**

## Пачаткі брэнда

У 1885 годзе была пабудавана Дамброўска-Івангародская чыгунка, якая звязвала Кельцы, Радам і Івангорад (сучасны Дэмблін). На адным з адгалінаванняў гэтай лініі знаходзіўся горад Апочна, дзе былі буйныя радовішчы гліны. У 1883 годзе прадпрымальнік Ян Дзевульскі разам з братамі Юзафам і Уладзіславам Ланге заклалі ў Апочна (на вуліцы Старамейскай) першапачаткова цэглавую, а пазней керамічную фабрыку, якая выраблала цэглу для мясцовых будаўнікоў. Аднак праз некалькі гадоў ля горада было знойдзена радовішча белай гліны, што дазволіла «Дзевульскі і Ланге» пабудаваць новыя вытворчыя цэхі.

Фабрыка пачала рабіць вогнеўстойлівую цэглу, кафлю для падлогі і хатніх комінаў. Ужо ў 1898 годзе фірма змяніла форму ўласнасці і стала Акцыянерным таварыствам «Дзевульскі і Ланге» са статутны капіталам у 400 тысяч рублёў. Хутка стала зразумела, што, каб хутчэй заняць не толькі польскі, але і расійскі рынак, фірме патрэбна выкарыстоўваць гліну з іншых радовішчаў. Такім месцам стаў украінскі Славянск. Праз некалькі гадоў бюджэт кампаніі складаў ужо 800 тысяч рублёў, што дазволіла пабудаваць у Славянску новую фабрыку. Па дадзеных на 1909 год, 75% вытворчасці фірмы «Дзевульскі і Ланге» прадавалася ў Расіі і толькі 25% у Каралеўстве Польскім.

Паступова «Дзевульскі і Ланге» пачалі займацца ўсімі відамі керамічнай вытворчасці. Агулам у 1908 годзе на дзвюх фабрыках (у Апочне і Славянску) працавала каля 800 чалавек. Увесь час фірма займалася ўдалай інвестыцыйнай палітыкай. Набываліся новыя радовішчы, будаваліся вытворчыя памяшканні.

## Умовы працы

Для дзяцей супрацоўнікаў за кошт фірмы будаваліся школы, бібліятэкі, медычныя пункты. Усе працоўныя «Дзевульскі і Ланге» (а сярод іх былі не толькі палякі, але і ўкраінцы, беларусы, а таксама татары) маглі карыстацца бясплатнай медыцынскай дапамогай. Была створана ашчадная каса, куды людзі адкладалі 0,25% сваіх заробкаў. У Славянску быў створаны прыватны аркестр.

Галоўны офіс Акцыянернага таварыства «Дзевульскі і Ланге» размяшчаўся ў Варшаве на вуліцы Мазавецкай, 4. Там таксама знаходзілася экспазіцыя ўзораў прадукцыі, якую фірма прапанавала кліентам. У 1909 годзе ў склад праўлення кампаніі ўваходзілі: старшыня Альбрэхт Ежы Райнштайн, яго намеснікі Рышард Эдвард Кімес і Казімір Леськевіч. Выканаўчым дырэктарам фірмы быў інжынер Аўгуст Дабравольскі (да 1905 года на гэтай пасадзе быў Ян Дзевульскі). Тэхнічнымі дырэктарамі былі: Уладзіслаў Ланге ў Апочне і Казімір Нармарк у Славянску. У 1912 годзе ў Апочна былі пабудаваны будынак для адміністрацыі кампаніі і фабрычная лабараторыя, дзе працавалі інжынеры-хімікі Казімір Жураўскі і выпускнік політэхнічнага ўніверсітэта ў Цюрыху Станіслаў Стэмпкоўскі. Станкі і абсталяванне фірма атрымлівала з Аўстра-Венгрыі, аднак пазней іх удалося замяніць тэхнікай мясцовай вытворчасці. У 1904 годзе фабрыка мела паравую машыну магутнасцю ў 55 кВТ. А праз пяць гадоў «Дзевульскі і Ланге» набылі больш моцны агрэгат.



Працоўныя фірмы Дзевульскі і Ланге. 1937 год

У фірме разумелі, што для таго, каб прыцягнуць увагу да свайго прадукту, трэба ўкласці ў яго грошы. Менавіта таму ў 1905 годзе прадпрыемства абвясціла конкурс для мастакоў на распрацоўку дызайну плітак. Журы атрымала 306 прац. У выніку камісія, у якую акрамя кіраўніцтва фірмы ўваходзілі таксама і знакамітыя польскія культуразнаўцы, прызначыла шэсць грашовых узнагарод.

## Вядомы брэнд

Да пачатку Першай сусветнай вайны ў Еўропе было толькі дзве фабрыкі, дзе выраблялі кафлю на вогнетрывалых бляхах. Адна знаходзілася ў Вялікабрытаніі, а другая ў Апочне. У 1901 годзе незалежная экспертыза ў Інжынерным інстытуце Пецярбургу даказала, што якасць пліткі, выраблена на фабрыках «Дзевульскі і Ланге», значна лепшая, чым якасць знакамітай маркі «Віллерой і Бош». Больш таго, тая ж экспертыза даказала, што плітка з Апочна і Славянску добра вытрымлівае агрэсіўнае ўздзеянне як фізічнага, так і хімічнага характару. Дарэчы, у той жа час амаль уся падлога тагачасных будынкаў Варшаўскай палітэхнікі была выкладзена менавіта прадукцыяй польскай фабрыкі.



Усе працоўныя «Дзевульскі і Ланге» маглі карыстацца бясплатнай медыцынскай дапамогай

У гэты перыяд прадукцыя фірмы «Дзевульскі і Ланге» атрымала ўзнагароды на шматлікіх конкурсах. Сярод іх: Залаты медаль у Кіеве ў 1897 годзе, Вялікі сярэбраны медаль на Сусветнай выставе ў Парыжы ў 1900 годзе, Гран-пры на Пецярбургскай міжнароднай керамічнай выставе ў 1901 годзе, Ганаровы дыплом і залаты медаль на конкурсе ў Брусэлі ў 1903 годзе, Залаты медаль у Рэвелі і Вялікі залаты медаль у Екацерынаславе (Днепрапятроўску) у 1909 годзе.


Знакамітая кафля з Апочна

## Узлёт і падзенне

У перыяд Першай сусветнай, а пазней польска-бальшавіцкай войнаў фабрыкі не працавалі. У выніку Рыжскай мірнай дамовы 1921 года Славянск застаўся за Саветамі, і кіраўніцтву фабрыкі прыйшлося будаваць сваю працу ў новых умовах. У 1922–1923 гадах была праведзена мадэрнізацыя прадпрыемства. Офіс фірмы размясціўся ў Варшаве на вуліцы Рысей, 1, а аддзел продажу — на Ерусалімскіх Алеях, 34.

У 1926 годзе прадукцыя «Дзевульскі і Ланге» заваявала залаты медаль у Лодзі і першае месца на будаўнічай выставе ў Львове. Праз год плітка з ініцыяламі «D L» перамагла на санітарна-гігіенічнай выставе ў Варшаве. У 1928 годзе было першае месца на Паўночнай выставе ў Вільне. Нарэшце, у 1929 годзе плітка з Апочна атрымала залаты медаль на Усеагульнай дзяржаўнай выставе ў Познані.

У міжваенны час дырэктарам прадпрыемства быў Пётр Дамбкоўскі. Пры гэтым на фабрыцы ў Апочне працавала каля 300 працоўных. Менавіта ў гэты час «Дзевульскі і Ланге» сярод іншых атрымалі і замову ад Корпуса аховы памежжа для новага будынку стражніцы «Шапавалы» пад Ракавам. Пры гэтым падчас выканання прац у будынку прысутнічалі спецыялісты фірмы-вытворцы. У 1936 годзе статутны капітал фірмы складаў 2 700 000 злотых.

Падчас Другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі фабрыка ў Апочне працягвала працу. Пасля вайны і ўсталявання ў краіне камуністычнай улады прадпрыемства было нацыяналізавана. Так скончылася гісторыя фірмы «Дзевульскі і Ланге» і пачалася гісторыя дзяржаўнага прадпрыемства «Фабрыка керамічных вырабаў «Апочна». Дарэчы, гэта была не апошняя назва. Наступныя змены адбываліся ў 1951, 1963, 1980 і 1998 гадах.

Старыя будынкі фабрыкі, якія перажылі войны, былі знішчаны. Да сёння захавалася толькі камяніца, у якой некалі засядала адміністрацыя фабрыкі. Зараз там офіс гарадскога кіраўніцтва.

У красавіку 2014 года група брытанскіх археолагаў з Універсітэта ў Стэфардшыры падчас археалагічных прац на месцы лагеру смерці ў Трэблінцы сярод іншых прадметаў знайшла і кафлю з ужо знаёмымі нам літарамі «D L» і шасцікутнай зоркай. Гэтыя артэфакты былі перададзены ў музей лагеру. У канцы таго ж 2014-га такая ж кафля была знойдзены ў кучы будаўнічага смецця ля былой стражніцы КАП Шапавалы.

Дарэчы, польская кафля «Opoczno» і сёння карыстаецца попытам.


На фабрыцы ў Апочне. 1932 год




# Дапаможам кнігарні «Логвінаў»

20 студзеня выдавец Ігар Логвінаў склікаў прэс-канферэнцыю па выніках рашэння суда, які аштрафаваў кнігарню «логвінаЎ» амаль на 1 мільярд беларускіх рублёў за гандаль без ліцэнзіі.

Ліцэнзію на гандаль кніжнай прадукцыяй (ноў-хаў Міністэрства інфармацыі ад 2014 года) Логвінаў так і не атрымаў, хоць 6 разоў падаваў дакументы: кожны раз чыноўнікі знаходзілі нязначныя зачэпкі дзеля адмовы.

Выдавец перакананы, што ўціск мае палітычны характар, але хоча скарыстаць усе магчымасці захаваць кнігарню. Бо кнігарня «логвінаЎ» — не проста кропка кнігагандлю, гэта — месца для літаратурных вечарын, незалежная публічная прастора. Прастора, важная для Мінска і беларусаў.

Сёння кнігарня зарэгістравана як новая юрыдычная асоба, а само выдавецтва, пазбаўленае ў 2013 годзе ліцэнзіі за выпуск альбома «Прэс-фота Беларусі-2011», атрымала рэгістрацыю ў Літве пад назвай «Літаратурны дом «Логвінаў».

Дзеля захавання кнігарні (і ўласнай свабоды) штраф Ігару Логвінаву, паводле парадаў адваката, давядзецца заплаціць. І сёння гэта немагчыма без грамадскай падтрымкі.

Дапамагчы кнігарні «Логвінаў» выплаціць штраф можна дзвюма спосабамі:

1. перавесці ахвяраванні на літоўскі рахунак Літаратурнага Дома «Логвінаў»:
LT052140030003236738
Logvino literaturos namai
Nordea Bankas, Bank code 21400
Swift code NDEALT2X

2. Прыйсці ў кнігарню «логвінаЎ» (Мінск, Незалежнасці 37а), звярнуцца да прадаўца. Паводле закона патрэбна мець з сабою пашпарт, а ахвяраванні павінны быць выключна ў рублях.

Абаронім беларускую кнігу!

# Памяці Міколы Прускага

Вера МІЦКЕВІЧ

**22 студзеня споўніўся год, як пайшоў у лепшы свет Мікола Прускі (штат Мічыган, ЗША) — друкар і выдавец, рэдактар, журналіст, грамадскі і культурны дзеяч, сябар міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», стрыечны пляменнік народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.**

Нарадзіўся Мікола Прускі 1 студзеня 1928 года ў вёсцы Мікалаеўшчына, што на Стаўбцоўшчыне. Яго маці Міхаліна Яўхімаўна з'яўлялася стрыечнай сястрой Якуба Коласа (па бацьку). Памёр таксама ў студзені, на 87-м годзе жыцця ад цяжкай анкалагічнай хваробы.

На пачатку 1941 года па даносе свайго падначаленага бацька Міколы, настаўнік Георгій Баляслававіч Прускі, быў арыштаваны. Сям'і ў цяжкую хвіліну дапамагаў малодшы брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч (Антось Галіна), які жыў непадалёку на хутары. У тым жа годзе бацька Міколы быў адпушчаны, працаваў у беларускай сямігодцы настаўнікам матэматыкі. Арышт і праца падчас нямецкай акупацыі вымусілі сям'ю Прускіх, як і шмат іншых патрыётаў сваёй Радзімы, пакінуць Беларусь пры падыходзе Савецкай Арміі і сысці на Захад. Спачатку жылі ў лагеры для пераселеных асоб непадалёку ад г. Мітэнвальд, дзе Мікола Прускі выдаў адзіны нумар часопіса для моладзі «Вясна».



Пасля пераезду ў ЗША асноўнай працай Міколы Прускага стала друкаванне каштоўных папер. Свой вольны час ён прысвяціў выдавецкай справе: з 1957 года ў Дэтройце выходзіў часопіс на англійскай і беларускай мовах «Сьвет» («World»), з 1959-га — англамоўная газета «The New American». Часопіс «Сьвет» у 1963 годзе быў пераўтвораны ў беларуска-амерыканскі культурна-асветны часопіс «Беларускі Сьвет» і выходзіў у залежнасці ад паступлення матэрыялаў.

Тут друкаваліся літаратурныя творы пісьменнікаў Беларусі і эміграцыі, артыкулы, успаміны, нарысы пра дзеячаў літаратуры і мастацтва, навукі і культуры. Да некаторых нумароў прыкладаўся дадатак «Думкі і погляды». Частка нумароў прысвячалася асобным вядомым беларускім дзеячам (Францыску Скарыну, Якубу Коласу, Янку Купалу, Максіму Багдановічу, Васілю Быкаву, Наталлі Арсенневай і іншым).

Мікола Прускі супрацоўнічаў з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў ЗША. У яго друкарні пабачылі свет дзясяткі кніг, такія, як, напрыклад, «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе. Бібліяграфія» (падрыхтавана Зорай Кіпель і Вітаўтам Кіпелем, 1985 г.), «Мацвея і Марка евангелле» ў перакладзе Міхася Міцкевіча (1998 г.), буклеты, канверты. З 1992 года выходзіла газета беларускага замежжа «Беларускі Дайджэст», якую рэдагаваў і выдаваў таксама Мікола Прускі.

У 1960–1970-я гады Мікола Прускі браў актыўны ўдзел у жыцці беларусаў у эміграцыі, з'яўляўся кіраўніком Беларускага драматычнага гуртка ў Дэтройце. З пастаноўкамі выступалі ў розных гарадах ЗША.

У 1990–2000-я гады — працаваў кансультантам па Усходняй Еўропе дабрачыннай арганізацыі «Міжнародная дапамога», штаб-кватэра якой месцілася непадалёку ад г. Грэнд Рэпідз у штаце Мічыган, дзе гаспадар жыў з сям'ёй на працягу 40 гадоў.

Мікола Прускі таксама быў актыўным арганізатарам збору сродкаў на будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы (Польшча) і выканаўцам гуманітарных праектаў. Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь наладзіў дасылку кантэйнераў з гуманітарнымі грузамі і медыцынскім абсталяваннем ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Такую дапамогу атрымала тады і Стаўбцоўская раённая бальніца.

Прускі некалькі разоў прыязджаў на Бацькаўшчыну ў 1991–1994 гадах з жонкай і дочкамі, удзельнічаў у рабоце Першага з'езда беларусаў свету, сустракаўся з родзічамі і блізкімі ў Мінску і Мікалаеўшчыне. З цеплынёй і хваляваннем успамінаюцца гэтыя сустрэчы з вельмі сціплым, добрым і працавітым чалавекам.

Пакінуў Мікола Прускі ў смутку жонку Веру родам з Беласточчыны, дачок — Ганну і Соф'ю і ўнукаў — Міколку і Аляксандру, а таксама сястру Марыю і пляменнікаў у Дэтройце. Як зазначыла летась на пахаванні спадарыня Вера Пруская: «Яго вялікі беларускі патрыятызм быў яркім прыкладам для сяброў і маладога пакалення. Пра яго яшчэ будуць успамінаць і пісаць даследчыкі беларускай гісторыі як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі. Няхай мічыганская зямля будзе яму пухам. Вечная памяць».




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 89

Падпісана да друку 23. 01.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.